# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

**Штомесячны дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

№ 4 (8) Красавік 1929 г. № 4 (8)


ЗЬМЕСТ



# Задачы саветаў у галіне калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Перабудаваньне сельскае гаспадаркі на сацыялістычных падставах і сапраўдны ўздым эканамічнага і культурнага дабрабыту бядняцка-серадняцкіх мас сялянства магчымы толькі пры ўмовах пераходу дробных і драбнейшых па-асобных (індывідуальных) сялянскіх гаспадарак да буйнага іх аб'яднаньня. Вось чаму пятнаццаты зьезд нашай партыі паставіў задачу калектывізацыі і каапэраваньня сельскае гаспадаркі, як галоўную задачу нашай працы на вёсцы.

На працягу ўсяго часу, ад пятнаццатага партзьезду, партыя і савецкая ўлада рашуча праводзілі практычныя мерапрыёмствы ў напрамку калектывізацыі, як вышэйшай формы землякарыстаньня, маючы ў гэтым вялізарныя посьпехі і дасягненьні. Беднейшае сялянства вёскі, пад кіраўніцтвам партыі, усё больш сьмялей становіцца на шлях калектывізацыі, як правільны шлях, які вядзе і прывядзе вёску да сацыялізму.

Немажлівасьць скарыстаньня ўсяго лішку рабочых рук вёскі гарадзкой прамысловасьці, наліччa ў вёсцы значнага ліку маламоцнага сялянства, якое ні ў якім разе ня можа індывідуальным парадкам палепшыць сваю гаспадарку, масавае імкненьне беднаты і серадняцтва вёскі гаспадарча ўмацавацца і вызваліць сябе ад эксплёатацыі кулака і нэпмана—усё гэта стварае неабходнасьць з боку саветаў і выканаўчых камітэтаў самых уважлівых адносін да справы калектывізацыі сельскае гаспадаркі, рашучай, усямернай, штодзённай дапамогі калектывам у іх цяжкай будаўнічай працы. Вопыт-жа мінулага часу ў калгасным будаўніцтве паказваў, што ў гэтым будаўніцтве саветы не зьяўляюцца непасрэднымі ўдзельнікамі арганізацыі гаспадарчых калектываў. Арганізацыя калгасаў зараз, як і раней, у значнай ступені ідзе стыхійна, і таму паасобныя калектывы будуюцца не на здаровых арганізацыйна-гаспадарчых падставах, а часта з мэтай атрыманьня крэдыту на свае ўласныя гаспадарчыя патрэбы. Зразумела, што гэткія калектывы няжыцьцёвы і хутка развальваюцца, кампрамэнтуючы ў вачох насельніцтва самую ідэю калектывізацыі.

Члены ўраду, якія былі са справаздачамі ўраду на раёнaых зьездах саветаў Беларусі, на спэцыяльнай нарадзе адзначалі, што на мясцох няма дастатковага ўмелага падыходу да справы калгаснага будаўніцтва. Часта бывае, калі сельсаветы і нізавыя каапэрацыйныя органы ня толькі не вядуць ніякай арганізацыйнай і растлумачальнай працы па калектывізацыі, а нават ня маюць у сябе статутаў для арганізацыі калгасаў, і гэта пры наліччы ініцыятывы ў самага бядняцка-серадняцкага насельніцтва вёскі. На гэтай глебе ствapылася шмат непаразуменьняў і валакіты, бо адсутнасьць статуту не давала магчымасьці аформіць калектыў. Наглядаецца шмат выпадкаў фармалізму і валакіты з боку саветаў, каапэрацыйных і зямельных органаў пры рэгістрацыі і юрыдычным афармленьні статутаў. У пытаньні рэгуляваньня сацыяльнага складу калгасаў таксама наглядалася блытаніна: былі выпадкі, калі серадвякі выключаліся са складу калгасу, а таксама і такія факты, калі кулак, гандляр залічаліся сябрамі калгасу. Можна прама сказаць, што саветы, а таксама нізавыя зямельныя і каапэрацыйныя органы ня маюць сталых плянаў калектывізацыі сельскіх гаспадарак сваіх раёнаў; ня маюць неабходнага нагляду за правільным скарыстаньнем калгасамі сельска-гаспадарчага крэдыту, чаму нярэдка бываюць выпадкі, калі атрыманыя калгасамі крэдыты скарыстоўваліся на патрэбы індывідуальных гаспадарак сяброў калгасаў. Зразумела, што ўсе гэтыя ненармальныя зьявішчы перашкаджаюць шырокаму разгортваньню калгаснага будаўніцтва на здаровых сацыялістычных падставах. Ясна, што органам сельска-гаспадарчай каапэрацыі, без дапамогі саветаў, з усімі адзначанымі ненармальнасьцямі не справіцца.

пасьпяховаму вырашэньню гэтае агульнае задачы сацыялістычнага будаўніцтва.

Сельска-гаспадарчыя камісіі пры сельсаветах павінны ажывіць сваю дзейнасьць наогул, іх праца ў галіне будаўніцтва калгасаў павінна быць першачарговай і важнейшай працай. Гэтыя камісіі павінны быць папоўнены за лік самых працаздольных сябраў сельсаветаў і лепшых актывістых сялян з беднаты і серадняцтва — нячленаў саветаў. Неабходна дабіцца, каб у працы саветаў і сельска-гаспадарчых камісій усе дырэктывы партыі і пастановы савецкага ўраду, накіраваныя на калектывізацыю сельскае гаспадаркі, выконваліся цалкам бяз усякіх пакрыўленьняў; каб кожны селянін, жадаючы перавесьці гаспадарку на калектыўную форму, меў у савеце ня толькі патрэбны адказ, але і самае ўважлівае садзейнічаньне.

Справа калектывізацыі вёскі ёсьць справа лепшай сувязі праз каапэрацыю гораду і вёскі, сувязі паміж дзяржаўнай сацыялістычнай прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай, таму рабочыя і шэфскія арганізацыі гарадоў павінны ў сваёй працы сувязі з падшэфнымі вёскамі ўсімі сродкамі дапамагаць практычнаму ажыцьцяўленьню калгаснага будаўніцтва.

Пры ўсебаковых уважлівых адносінах да канкрэтных пытаньняў будаўніцтва калгасаў з боку партыйных і савецкіх органаў, з боку грамадзкіх і гаспадарчых арганізацый вёскі, калгасы павінны быць і будуць тым сацыялістычным сэктарам у нашай сельскай гаспадарцы, ад якога па меры ўзросту пралетарскае дзяржавы, у меру росту сацыялістычнай прамысловасьці, будзе пашырацца сетка калгасаў і прыцягваць усё сялянства, усю сельскую гаспадарку да адзінага магутнага сацыялістычнага арганізму.

А. Хацкевіч.

## Некаторыя папярэднія вынікі ўдзелу прафсаюзаў у перавыбарах сельскіх і гарадзкіх саветаў.

Клясавая барацьба як у горадзе, так і ў вёсцы з сіламі варожымі сацыялізму і ўсёй справе сацыялістычнага будаўніцтва паставіла перад рабочаю клясаю і яго арганізацыямі—прафсаюзамі—у выбарчай кампаніі саветаў шэраг задач, ажыцьцяўленьне якіх прафсаюзамі зьявілася экзаменам іх сувязі з масамі, праверкай іх палітычнага аўтарытэту на вачох рабочых, паказальнікамі ўменьня прафсаюзаў арганізоўваць і выяўляць палітычную актыўнасьць і самадзейнасьць працоўных мас.

Прафэсыянальныя арганізацыі хоць з некаторым спазьненьнем, усё ж такі мабілізавалі грамадзкую ўвагу мас прафсаюзаў вакол перавыбараў саветаў і тых задач, якія былі зьвязаны з гэтай кампаніяй. Па гэтай лініі прафсаюзы выкарыстал вечары пытаньняў і адказаў, перыядычны друк, сходы і г. д. Адных толькі сходаў батрацтва па Магілеўскай, Гомельскай і Аршанскай акругах, па няпоўных вестках, было праведзена 97. Ворша правяла 12 сходаў пісьманосцаў па пытаньню аб дапамозе іх і своечасным абвяшчэньні выбаршчыкаў пра справаздачныя і выбарчыя сходы. Асобныя акругі праводзілі спэцыяльныя курсы для батрацтва, якое вызначалася ў склады сельсаветаў, (Ворша). У гэтай кампаніі ўпяршыню практыкавалі асобныя прафсаюзныя арганізацыі мітынгі-пераклічкі, як спосаб мабілізацыі грамадзкае думкі працоўных вакол кампаніі перавыбараў. Пераклічкі далі шэраг станоўчых вынікаў. Так, на агульна-гарадзкім мітынгу ў Бабруйску выступіла 15 чалавек з канкрэтнымі прапановамі па кампаніі і было падана звыш 100 пісьмовых прапаноў і пытаньняў. Чыгуначнікі Воршы аднагалосна пастанавілі адлічыць у фонд прэміраваньня за лепшую работу сельсавету адначасовы заработак і паслалі сваю дэлегацыю на фабрыку „Дзьвіна“, дзе яны выступалі на двух шматлікіх сходах, спэцыяльна скліканых і г. д.

У перавыбарчую кампанію саветаў гэтага году прафсаюзы, не паслабляючы ўвагі к гораду, шмат зьвярнулі ўвагі на дапамогу вёсцы ў перавыбарах шляхам пасылкі рабочых брыгад. Па няпоўных вестках, усяго па БССР прафсаюзамі было паслана каля 250-300 чалавек, ня лічачы пасылкі рабочых па лініі шэфскіх таварыстваў. Цікава адзначыць той уплыў, які мелі рабочыя брыгады на сходах. Быў такі выпадак, калі кулацтва заявіла, што яны пакінуць сход, калі ня прымуць яе прапаноў. На гэта бедната адказала: „выбірайцеся к чорту, абыйдземся і бяз вас“ (Віцебск). Чэрвенская раённая выбарчая камісія паведамляе, што прысутнасьць рабочых гораду на сходах стварала асаблівае ўражаньне, уплывала на правядзеньне сходаў, забясьпечыла сходы ад дэмагагічных выступленьняў варожа настроеных савецкай уладзе грамадзян.

Што-ж далі ўсе праведзеныя прафсаюзам мерапрыйманьні ў перавыбарчай кампаніі?

Неабходна адзначыць, што спробы кулакоў і варожых нам сіл вёскі пралезьці ў саветы, сарваць асобныя нашы мерапрыйманьні былі адбіты беднякамі і сераднякамі. Саветы яшчэ больш умацаваліся за лік пралетарска-бядняцкае і серадняцкае частак сялянства. Папярэднія даныя паказваюць рост членаў прафсаюзаў у складзе сельсаветаў і іх прэзыдыумаў. Так, па Бабруйскай акрузе ў 43-х сельсаветах з 1231 членаў сельсаветаў лічыцца членаў прафсаюзаў 137 або 11 проц., а з 137 членаў рэвізійных камісій—64 члены прафсаюзаў або 47 проц. У гэтай жа акрузе ў складзе двух местачковых саветаў налічваецца 50 проц. членаў саюзу, а ў рэвізійных камісіях —83 проц. З 115 членаў сельсавету Вузьдзенскага раёну—членаў прафсаюзаў налічваецца 44 або 11 проц., а ў рэвізійных камісіях—20 чалавек з 33, або 61 проц., у прэзыдыумы сельсаветаў выбрана 8 членаў прафсаюзаў з 33 або 25 проц. У сельскія і местачковыя саветы Халопеніцкага раёну выбрана 23 члены прафсаюзаў, што к агульнаму складу членаў саветаў дае 8 проц. Па асобных раёнах павялічэньне ліку батракоў у саветах дасягае 300-500 проц. (Глускі раён, Бабруйскае акругі).

Кампанія перавыбараў саветаў у гэтым годзе характарызуецца таксама і тым, што ўдзел членаў прафсаюзаў, якія жывуць у вёсцы, быў значна большы, як у папярэднія кампаніі. Так, наведваньне па саюзах сельска-гаспадарчых і лясных рабочых, працаўнікоў асьветы, аховы здароўя ў сярэднім складае 80 проц., а ў некаторых выпадках даходзіць да 93 проц.

У агульнай масе члены прафсаюзаў ва ўсёй перавыбарчай кампаніі трымалі цесную сувязь з беднняцкаю часткаю вёскі і падтрымлівалі яе кандыдатуры. Але разам з гэтым у асобных выпадках былі факты, калі, напрыклад, члены саюзу сельска-гаспадарчых рабочых (лясьнік) выступаў супроць бядняцтва і сходаў беднаты.

Сельская інтэлігенцыя—урачы, настаўнікі, аграномы—у агульнай сваёй масе прымалі актыўны ўдзел у перавыбарах сельсаветаў. Аб гэтым гавораць весткі раіённых выбарчых камісій і рабочых брыгад. Настаўніцтва прымала актыўны ўдзел у выпуску насьценных газэт, складаньні плянаў перавыбарных сходаў, правядзеньні сходаў беднаты, выяўленьні пазбаўленых права голасу, складаньне сьпіскаў выбаршчыкаў і г. д. У некаторых школах арганізоўваліся часовыя пакоі для дзяцей, каб даць мажлівасьць сялянам прысутнічаць на сходах. У справаздачнай кампаніі настаўніцтва выступала з дакладамі аб культурна-асьветнай рабоце сельсаветаў (у Бабруйскай акрузе такіх дакладаў было зроблена 36). Такія-ж даклады рабілі ўрачы і аграномы, кожныя па сваёй лініі. Настаўнікі, аграномы і ўрачы ў сярэднім наведвалі сходы на 90 проц.

Аднячасна неабходна адзначыць, што ў асобных раёнах былі групы настаўніцтва, якія пасыўна, а то і варожа праяўлялі сябе ў кампаніі перавыбараў саветаў.

Удзел членаў прафсаюзаў у справаздачна - перавыбарчай кампаніі гарсаветаў гаворыць пра тое, што прафсаюзы ў сваёй асноўнай масе больш праяўляюць актыўнасьці, чым у мінулую кампанію. Так, напрыклад, па Бабруйскай акрузе наведваньне членамі прафсаюзаў справаздачных сходаў гарсаветаў у сярэднім дае 80 проц., у спрэчках выступала ў сярэднім на кожным сходзе ад 8 да 12 прысутных. У Віцебскай акрузе па саюзах дрэваапрацоўшчыкаў і мэдпрацаўнікоў наведваньне ў сярэднім дасягала 85-98 проц. Процант наведваньня па саюзу гарбароў раўняецца 97, транспартнікаў—70, будаўнікоў—75 і г. д.

Выступленьні рабочых на справаздачных сходах гарсаветаў гавораць аб росьце палітычнай сьвядомасьці і актыўнасьці рабочае клясы. У большасьці выступленьні носяць дзелавы характар пераважна па пытаньнях савецка-каапэрацыйнага і гаспадарчага будаўніцтва. Выступаўшыя больш усяго краталіся пытаньняў мэдыцынскага абслугоўваньня насяленьня, невыстарчальнай гібкасьці работы аддзелаў камунальнае гаспадаркі і жывёлакаапэрацыйных таварystваў, невыстарчальнага ахопу школамі дзяцей рабочых, невыстарчальнае работы гарсавету па лініі беларусізацыі, невыстарчальнае барацьбы з бяспрытульнасьцю, п'янствам і хуліганствам, а таксама пытаньняў чысткі каапэрацыйных і іншых органаў ад шкодніцкіх элемэнтаў, патаненьня білетаў у тэатры і кіно, палепшаньня дабрабыту акраін гораду. Вось тыя папярэднія посьпехі, якія цяпер можна падбіць у галіне дасягненьняў.

Але побач з гэтым неабходна адзначыць і тыя недахопы, што мелі месца ў кампаніі. Першы і галоўны недахоп выражаецца ў тым, што асобныя прафсаюзы марудна разгортвалі ў пачатку кампаніі сваю работу. Гэта асабліва-б адбілася ў час пасылкі рабочых брыгад. Рабочыя брыгады кепска інструктаваліся, сувязь паміж рабочымі брыгадамі і прафарганізацыямі (Гомель) была слаба наладжана і прафарганізацыі ня ведалі, што гэтыя брыгады робяць і не маглі імі кіраваць. Асобныя райвыканкомы няўмела выкарыстоўвалі прыехаўшых рабочых, і былі выпадкі, калі рабочыя пасылаліся рабіць самастойна даклады бяз удзелу прадстаўнікоў райвыканкомаў, чаму палучалася так, што часта рабочыя не маглі адказаць на мясцовыя пытаньні (Плешчаніцкі раён). Быў і такі выпадак, калі старшыня сельсавету паглядзеў на рабочага, як на кантралёра і баяўся расказаць яму пра недахопы (Чэрвенскі раён).

Але гэтыя недахопы не зьмяншаюць тае агромністае работы, якая была праведзена прафсаюзамі. Асобна трэба падчаркнуць, як станоўчы момант у гэтай кампаніі—актыўнасьць выбаршчыц-работніц. Так, напрыклад, па саюзу харчавікоў процант выступленьняў жанчын на справаздачных сходах раўняецца 10,4 к агульнаму ліку жанчын-выбаршчыц, якія прысутнічалі на сходах; у дачыненьні-ж агульнага ліку выступаўшых жанчыны складаюць звыш 20 проц., а наведваньне іх дасягае 79 проц.

Перад прафсаюзамі цяпер, як першачарговая задача, стаіць пытаньне аб замацаваньні дасягнутых у гэтую кампанію вынікаў. Дапамога дэпутатам у іх рабоце павінна быць забясьпечана з боку прафсаюзаў. Неабходна наладзіць шырокую справаздачнасьць дэпутатаў перад масамі. Трэба дамагчыся такога становішча, каб дэпутаты сапраўды адбівалі ў савеце настрої і запатрабаваньні выбаршчыкаў. Неабходна дабіцца таго, каб кожны дэпутат прымаў актыўны ўдзел у рабоце сэкцый гарсаветаў. Толькі такім парадкам, пры актыўным удзеле ўсіх дэпутатаў у практычнай рабоце саветаў, пры цеснай сувязі дэпутатаў з масамі, пры актыўным падтрыманьні і дапамозе дэпутатаў у іх рабоце з боку выбаршчыкаў і ў першую чаргу з боку прафсаюзаў і пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў мы пераможам нашыя часовыя цяжкасьці і яшчэ з большым тэмпам пойдзем па шляху сацыялізму.

**Плаўнік Б. Г.**

# З блёк-ноту перавыбараў.

Перавыбары саветаў закончаны. Матар'ялы першаступнёвых крыніц даюць надзвычайна цікавы малюнак, у якім яскрава адлюстроўваецца клясавая барацьба паміж асобнымі сацыяльнымі праслойкамі вёскі, рост актыўнасьці, сьвядомасьці і арганізаванасьці рабочых гораду і поўпралетарскіх мас вёскі. У ходзе справаздачна - перавыбарчай кампаніі саветаў выкрыты характэрныя мэтады папярэдняй арганізацыйна-падрыхтоўчай работы, якая праводзілася варожымі савецкай уладзе элемэнтамі—кулацтвам, рэлігійнікамі і г. д.

І ўсё-ж такі, ня гледзячы на гэта, пад кіраўніцтвам рабочае клясы бядняцка - серадняцкія масы вёскі атаку кулацтва на саветы адбілі. Вораг адступіў, але неабходна памятаць, што ён дашчэнту ня зьнішчан. Як і трэба было чакаць, у гэтай надзвычайна вялікай рабоце быў шэраг недахопаў арганізацыйнага зьместу. Гэтыя недахопы патрабуюць дакладнага вывучэньня для таго, каб у будучым іх унікнуць.

Папярэдняя падрыхтоўка да справаздачы і перавыбараў саветаў па дырэктыве Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту павінна была распачацца з ліпеня і найпазьней—з жніўня месяца. Матар'ялы праверкі па Полацкай і Віцебскай акругах сьведчаць, што папярэдняя падрыхтоўка не праводзілася. Чэрвеньскія

дырэктывы прэзыдыуму ЦВК выконваліся фармальна. Уся падрыхтоўчая работа праводзілася ў час справаздачнай кампаніі.

Адсутнасьць сталай папярэдняй падрыхтоўкі, мне здаецца, і будзе першым недахопам, які даваў сябе адчуваць на працягу ўсяе кампаніі. Дзякуючы гэтаму былі дапушчаны і парушэньні інструкцыі аб перавыбарах, асабліва ў справе пазбаўленьня права голасу. Так, у Касьцяеўскім с-савеце мэханічна пазбаўлены выбарчага права мужчыны, старэй 60 год, жанчыны старэй 50 г. У гэтым-жа савеце пазбаўлен права голасу серадняк, які па чутках быццам-бы зьбіраў на царкву ссыпку. Адначасова выбарчая камісія гэтага савету не пазбавіла права голасу відавочна кулацкія гаспадаркі, якія абкладзены індывідуальна і карыстаюцца наймовай працай. Пры праверцы сьпісаў усіх с-саветаў Высачынскага раёну выяўлена, што сельскія выбарчыя камісіі пазбаўлялі права голасу членаў тых сямей, у якіх былі пазбаўлены судом. Па Стасеўскаму савету такіх пазбаўленых 16 чалавек.

Нельга не адзначыць таго факту, што адзначаныя парушэньні ў дачыненьні пазбаўленьня права голасу дапушчаны, ня гледзячы на тое, што сельскія саветы ў сёлетнім годзе, як ніколі, былі забясьпечаны непасрэднай дапамогай з боку кіруючых работнікаў раёну і акругі. Дапушчаныя памылкі ў рабоце сельскіх выбарчых камісій з посьпехам маглі выпраўляцца адпаведнымі раённымі камісіямі, калі-б у іх працы была ўстаноўлена сыстэматычнасьць. Данныя Полацкай і Высачанскай выбарчых камісій паказваюць, што гэтай сыстэматычнасьці ў іх рабоце ня было. Полацкая акруговая і раённая выбарчыя камісіі нават ня мелі арыентыровачных плянаў свае работы. Матар'ялы сельскіх выбарчых камісій у раённых не разглядаліся. Такім чынам, другім недахопам у арганізацыйнай рабоце зьяўляецца слабасьць кіраўніцтва сельскімі выбарчымі камісіямі з боку раённых.

Перавыбарчыя вучасткі у сёлетнім годзе параўнаўча з перавыбарчай кампаніяй 1926-27 г. павялічыліся на значную колькасьць, але-ж нельга сказаць, што вялікіх вучасткаў ужо ня было. Так, па Полацкаму раёну сустракаюцца вучасткі, якія ядналі ў сябе звыш 500 выбаршчыкаў, у той час калі будынак, дзе назначаўся перавыбарчы сход, мог умясьціць 100—120 чалавек. У сярэднім на выбарчы вучастак па Полацкаму і Высачынскаму раёнах прыходзіцца 200—250 выбаршчыкаў, альбо 400—500 душ насельніцтва. Такія вучасткі, бязумоўна, можна яшчэ паменшыць, а гэта мерапрыёмства забясьпечыць большую яўку бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі на перавыбары саветаў.

Падрыхтоўка батрацтва да перавыбараў саветаў у Высачанскім раёне праведзена даволі грунтоўна: адбылася райканфэрэнцыя і шэраг куставых сходаў. У асобных сельсаветах (Выдрэйскі) гаспадары, баючыся адказнасьці, выпраўлялі сваіх батракоў на перавыбары, кажучы: „ідзі, а то прыдзецца мне яшчэ за цябе несьці адказнасьць". У Касьцяеўскім с-савеце батракі, як выбаршчыкі, у сьпіс не занесены, на выбарах удзельнічалі; батрачка ў гэтым савеце абрана членам с. савету, а на арганізацыйным пленуме праведзена ў прэзыдыум у якасьці намесьніка старшыні.

Актывізацыя вясковай беднаты праз спэцыяльныя сходы ў перавыбарчую кампанію гэтага году была разгорнута амаль што па ўсіх выбарчых вучастках. Удзельнікі сходаў беднаты па Бельскаму сельскаму савету ў дачыненьні ўсіх выбаршчыкаў данага савету складалі 17 пр. Таварышы, якія праводзілі бядняцкія сходы, запэўняюць, што на гэтых сходах удзельнічалі слабыя сераднякі і серадняцкі актыў. Факты выбараў членаў савету, якія рэкамэндаваліся ад імя парт'ячэйкі сходу беднаты сьцьвярджаюць другое, а іменна: серадняцкі актыў і слабыя сераднякі на бядняцкіх сходах удзельнічалі недастаткова. Інакш нельга растлумачыць тое, што з 20 кандыдатур, папярэдня намечаных сходамі беднаты, 8 абрана менш чым палавінай удзельнікаў выбарчага сходу; 8 аднагалосна і 4 атрымалі адносную большасьць. У абсьледаваных сельсаветах кандыдатуры парт'ячэек і сходаў беднаты прайшлі: у Бельскім—на 80 проц., Касьцяеўскім—на 76,6 проц. і Выдрэйскім—на 82 проц. На падставе фактаў галасаваньня рэкамэндаваных кандыдатур магчыма вывучыць недахопы бядняцкіх сходаў.

У абсьледаваных раёнах і с-саветах удзел жанчын на перавыбарах у сёлетнім годзе значна ўзрос. Так, па Полацкаму раёну ў 1926-27 г. яўка жанчын дасягала 25,5 проц.; у 1928 29 г.—42,88 пр. У асобных саветах Высачанскага раёну жаншчыны - выбаршчыцы ўдзельнічалі на перавыбарах на 50,3 проц. (Касьцяеўскі с-с.). Павялічэньне ўдзелу жанчын у перавыбарах тлумачыцца ў асноўным значнай увагай гэтай справе. Адначасова нельга сьвярджаць, што ўсё зроблена; можна было зрабіць больш і вынікі, бязумоўна, мы мелі-б значна лепшыя. Аб тым, што ня ўсё зроблена для актывізацыі жанчын, гаворыць справаздачныя сходы. І па Высачанскаму і па Полацкаму раёнах удзел жанчын на справаздачных сходах зусім нездавальняючы: на значнай колькасьці гэтых сходаў жанчыны зусім на ўдзельнічалі, а калі і былі—дык 2-3. У арыентыровачных плянах выбарчых камісій арганізацыйныя пытаньні па падрыхтоўцы жанчын да справаздачных і перавыбарчых сходаў зусім не закрануты. Папраўкі аб жанчынах у пляны пачалі ўносіцца, як кажуць, на ходу. Полацкі раён такіх папраўк унёс досыць значную колькасьць, прычым па свайму зьместу гэтыя папраўкі патрабуюць выпраўленьня.

Я думаю, што недапушчальным зьяўляецца, калі жаночыя сходы праводзяцца раней мужчынскіх і кандыдатуры, выбраныя на сходах жанчын, перагаласоўваюць на выбарчых сходах мужчын. Нельга, бязумоўна, згадзіцца і з тым, калі пры аднолькавай колькасьці выбаршчыкаў жанчынам вызначаюць выбраць 3 х дэпутатаў, а мужчынам шэсьць. Усе гэтыя ляпсусы дапушчаны дзякуючы таму, што загадзя ня было грунтоўнай падрыхтоўкі.

Парушэньне савецкай дэмакратыі на арганізацыйным пленуме Шацілаўскага сельскага савету сыгналізуе аб недапушчальным парушэньні асобнымі работнікамі раёну дырэктыў кіруючых органаў пра адкліканьне дэпутатаў—(бяз грунтоўных падстаў са складу членаў савету на памянёным пленуме быў пазбаўлен дэпутацкіх паўнамоцтв Пахоменка П.С.—серадняк, які плаціць падатку 21 р. 15 к.; на яго месца ўведзен Міхеенка Л., які па пратаколах выбарчых сходаў нават ня лічыцца кандыдатам).

З такімі зьявішчамі патрэбна самая жорсткая барацьба. Ні ў якім разе нельга дапушчаць, каб абраны дэпутат адмовіўся са складу савету, на падставе непразразраных заяў. Дэпутат можа быць пазбаўлен сваіх паўнамоцтваў выбаршчыкамі і судом. Такі парадак павінен ажыццяўляцца, гэта вымагаецца прынцыпам савецкай пралетарскай дэмакратыі.

Л—ч.

# Ці можна у нашых умовах зьнішчыць бюракратычныя выкрыўленьні ў рабоце?

Цэлыя горы паперы сьпісаны скаргамі на бюракратызм нашага апарату, на валакіту ў ім, на фармальна-чыноўніцкія, грубыя, зьняважлівыя адносіны да працоўных. Пачынаючы з У. І. Леніна і канчаючы, ма'быць, добрым дзесяткам тысяч радавых рабочых і сялян,—па адрасу нашага апарату чуюцца самыя колкія заўвагі: шмат бюракратызму, гэтулькі-ж валакіты, хоць адбаўляй грубасьці.

Некаторыя працаўнікі выпадкі бюракратызму і валакіты часта аб'ясьняюць „аб'ектыўнымі ўмовамі"—мы, бачыце, бедны матар'яльна адсталі культурна, перагружаны работай. Па іх думцы бюракратызм у нас упаўне законны і яго нельга выжыць да тае шчасьлівае пары, калі мы станем вельмі багаты і вельмі культурны. Але ці так гэта? Ці можам мы толькі гэтым аб'ясьняць прычыны бюракратызму нашага апарату? Зразумела, не! Ня было-б крыўдна, калі-б выпадкі бюракратызму і валакіты ўзьнікалі толькі тады, калі няма сродкаў. Але ўся наша бяда якраз і зьмяшчаецца ў тым, што, ма'быць, 90 проц. бюракратызму і валакіты ніякага дачыненьня к аб'ектыўным умовам ня маюць, а залежыць галоўным чынам ад асабістых якасьцяй нас саміх,—ад нашае ўважлівасьці, ад чуласьці, ад усьведамленьня адказнасьці свае работы, ад жаданьня падыйсьці к справе па сутнасьці, а не фармальна. Газэты кожны дзень прыводзяць шмат выпадкаў, якія гэта сьцьвярджаюць. У гэтым артыкуле можна абмежавацца толькі некаторымі прыкладамі:

а) У Станькаўскі сельсавет (Менскае акр.) некалькі сялян падалі заяву, каб адмовіцца ад зямлі, каб яе забралі ў зямельны фонд. Некалькі іншых сялян, наадварот, просяць гэту зямлю перадаць ім. І тое, і другое пададзеана савету ўвосень, сяўбы, а сельсавет прамарнаваў заявы не разглядаючы да зімы;

б) Менскі аркрвыканком палучыў ад ЦВК заяву групы сялян аб тым, каб з іх зьнялі плату за будынкі. У працягу дзевяці месяцаў сяляне ніякага адказу на сваю заяву не палучылі і зьвярнуліся да пракурора з просьбаю высьвятліць у чым справа. Пракуратура запытвае акрвыканком; акрвыканком не адказвае. Праз два з паловаю месяцы пракуратура пасылае акрвыканкому напамінак,—акрвыканком маўчыць. Сяляне, чакаўшы яшчэ паўгода, зноў зьвярнуліся ў пракуратуру. Пракуратура піша акрвыканкому ў трэці раз і толькі тады —праз 15 месяцаў ад пачатку справы—палучае адказ акрвыканкому, што акрвыканком чакае вынікаў ад РВК. 15 месяцаў справа ня рухалася, а калі аб гэтым напісала газэта,—вырашылася ў працягу трох дзён;

в) У Магілеўскай акрузе жонку інваліда ў працягу 13 месяцаў вадзілі на нос даклераваньнем выдаць ёй дапамогу па цяжарнасьці і на рады, але ўсё патрабавалі справак, выпісак і іншае. А калі яна; прамаяўшыся 8 месяцаў, сабрала патрэбныя дакументы і радзіла, а пасьля зьявілася па дапамогу, ёй сказалі; „ідзі скардзься, але ў нас грошай няма" (безабразіе тут ня ў тым, што адказалі „па адсутнасьці грошай", а ў тым, што дарам ганялі жанчыну);

г) У Магілеўскай акрузе чатыры гады цягнулася справа аб звароце селяніну незаконна ўзысканых з яго грошай, ня гледзячы на пастанову Вярхоўнага Суда і ня гледзячы на тое, што селянін гэты па некалькі раз зьвяртаўся ў РВК, АВК, пракуратуру. Пакуль справа не папала ў РСІ,—яна цягнулася чатыры гады, а пасьля РСІ—вырашана за два дні і г. д.

Тысячы такіх выпадкаў пацьвярджаюць, што бюракратызм і валакіта пераважна і цалкам залежаць ад адносін працаўнікоў к справе—і толькі.

А вось яшчэ адзін вельмі навучальны выпадак.

Крычаўскі РВК (Магілеўская акруга), на тэрыторыі свайго раёну „злавіў" селяніна на нейкім парушэньні закону, і за гэта аштрафаваў яго. Грошы з селяніна былі ўзысканы, але ЦВК штраф яго зьняў. Селянін з квітком аб узысканьні штрафу і з паперкай ад ЦВК прыходзіць у Крычаўскі РВК, каб палучыць грошы назад. Высьняецца, што штраф налажыў Крычаўскі РВК, а спагнаў яго нейкім чынам суседні РВК і грошы гэтыя папалі туды. Гэты селянін жыве ўсяго ў 4-х вярстох ад Крычаву, ад суседняга РВК ў 17-ці вярстох. І вось Крычаўскі РВК грошы яму не аддае: „Нельга, інструкцыя забараняе, ідзеце ў той РВК". Будучы пры гэтым выпадку, я сказаў сакратару, што ня варта ганяць селяніна і яму можна грошы вярнуць тут-жа, а пасьля сьпісацца з тым райвыканкомам, пераслаўшы яму ўсе дакументы; селянін-жа прышоў сюды, дакументы ў яго ўпарадку, самненьняў ніякіх няма і загэтым трэба зрабіць яму палёгку. Сакратар з гэтым згадзіўся, але бухгальтэр упёрся, як бык: „ніяк нельга... пункт такі, параграф гэтакі, адказнасьць па артыкулу наступная..." Так і неўдалося яго пераканаць, што ў даным выпадку ніякае адказнасьці баяцца ня варта, што гэта бюракратызм чысьцейшае вады і іншае,—ён прымусіў сакратара напісаць яму афіцыйную прапанову.

Хіба-ж мала такіх выпадкаў, якія вырашаюцца бюракратычна толькі за тым, што мы ня хочам пашавяліць мазгамі, і абапіраемся на параграфы і пункты?!

Вось чаму можна пасьпяхова змагацца з бюракратызмам і валакітай, вось чаму можна дамагчыся станоўчых вынікаў у гэтай барацьбе. Што-ж для гэтага патрэбна? Ніякіх новых Амэрык у гэтым пытаньні шукаць ня трэба і ня трэба прыдумваць новых рэцэптаў,—даволі савецкія выпаўняць савецкія і партыйныя дырэктывы.

Раней усяго ў кожнай справе трэба больш думаць аб сваіх рашэньнях і ўчынках і менш спасылацца „на аб'ектыўныя ўмовы". Затым, неабходна, каб работа нашага апарату і асобных працаўнікоў праходзіла пры пастаяннай штодзённай увазе партыйных ячэек, камсамолу, прафэсыянальных органаў. Гэта вельмі простая і даўно абавязковая дырэктыва, а між тым яна амаль зусім не выпаўняецца. Паглядзеце, як сельскія ячэйкі правяраюць сельсаветы, райкомы—райвыканкомы, а савецкія ячэйкі—свае ўстановы.

Абавязкова правяраецца, на колькі выпаўнен падатак, як ідзе страхоўка, ці добра праходзіць пасеўная кампанія, як праведзена зьніжэньне адміністрацыйных выдаткаў і г. д. Але побач з гэтымі важнымі пытаньнямі—ці многа ячэек займалася канкрэтнымі выпадкамі бюракратызму, валакіты, грубасьці, ці многа ўстаноў было праверана якраз па гэтай лініі? Колькі раз на

абы-якой ячэйцы ставілася на абгаварэньне пытаньне аб змаганьні з бюракратызмам на прыкладах сваёй установы? Мы ніяк не памылімся, калі скажам, што па ўсёй БССР такіх выпадкаў будзе 1-2—ды пералічыў.

Звычайна, вывады шэрагу спэцыяльных абсьледваньняў (савецкай дэмакратыі; работа савецкіх ячэек; прыём і абслугоўваньне наведвальнікаў, работа апарату ў сувязі з чысткаю) паказваюць на тое, што парт'ячэйкі пытаньнямі бюракратызму не займаюцца, і незаўсёды разумеюць, як гэта трэба рабіць. Так, напрыклад, сакратар ячэйкі Віцебскага Акруговага Зямельнага Аддзелу заявіў, што ў іх выпадкаў бюракратызму за апошні час не наглядаецца, бо ячэйка дала строгія дырэктывы, але другі партыец тут-жа выкрыў сакрэт: „выпадкі такія ў нас, ма'быць, ёсьць, але мы іх не заўважваем і не абгаварваем". Такое становішча і ў камсамоле і прафэсыянальных арганізацыях. Карацей кажучы, разглядам выпадкаў бюракратызму займаюцца выключна органы РСІ. Але гаворачы пра грамадзкія арганізацыі, трэба ці іх дадаць і ўстановы. Неабходна, каб самі савецкія органы—пленумы і прэзыдыумы сельсаветаў, райвыканкомаў, гарсаветаў, акрвыканкомаў—таксама не прапускалі ні аднаго выпадку бюракратызму і валакіты. Калі-б прэзыдыум якога-небудзь органу, або кіраўнік установы ўзгрэў як належыць свайго працаўніка,—гэта было-б куды карысьней для справы і ясьней для іншых працаўнікоў, як гутаркі аб барацьбе з бюракратызмам „наогул і ўцалку". А то ў нас увайшло ў моду такое правіла, што калі ніжэйшая інстанцыя не адкажа на запытаньне вышэйшае па справах дзяржаўнага значэньня ці па пытаньнях ведамства,—тады яшчэ ў дачыненьні вінаватых ужываюцца меры нажыму і ўзысканьняў. Тут і адносіны, і тэлеграмы, і выгавары, і зьніманьне з работы. Але калі хадайнічаньне працоўнага не разгледжана ў працягу 6-ці месяцаў а то і году, калі законная просьба не задавальняецца па чыста фармальных прычынах, калі наведвальніка водзяць за нос цэлымі днямі, адсылаюць яго ад стала к сталу, не даюць талковых раз'ясьненьняў і інш.—у такіх выпадках ці шмат якія ўстановы нажымаюць, патрабуюць, здымаюць з работы? Самі „ведамства" гэтым не займаюцца,—гэта звычайна справа РСІ, якая разглядваецца як адзіны орган па барацьбе з бюракратызмам.

Вельмі вялікае значэньне мае масавасьць у рабоце саветаў, рэгулярная справаздачнасьць перад масамі і правільная пабудова самых справаздач. Тыя саветы, выканкомы і асобныя ўстановы, якія змаглі разгарнуць работу сэкцый, камісій, нарад, змаглі залучыць у гэту работу рабочых ад варштата і сялян ад сахі або калектывы служачых, залучаць іх у абсьледваньне работы ўстаноў, у выяўленьне недахопаў, у іх выпраўленьне, такія ўстановы, зразумела скарэй выжываюць бюракратызм, валакіту, грубасьць, чым тыя, што працуюць выключна па-казённаму, сьцерагучыся мас.

Тое самае трэба сказаць і ў дачыненьні справаздачнасьці перад масамі. Калі той ці іншы орган, тая ці іншая ўстанова сваю работу будзе выносіць на суд рабочых, сялян, служачых і будзе прыслухоўвацца к голасу масы—ёй лягчэй устраніць недахопы сваей работы, у тым ліку і бюракратызм. Але яшчэ неабходна зьвярнуць увагу на тое, як у нас будуюцца справаздачы. З пачатку вялікія радкі статыстычных даных аб насяленьні, дарогах, балотах, ліку пасяджэньняў, ліку разгледжаных пытаньняў і г. д., пасьля аб станоўчых выніках работы. Пра работу-ж апарату, пра тое, якія былі выяўлены выпадкі валакіты, і бюракратызму, што зроблена, каб палепшыць абслугоўваньне працоўных і вырашэньне іх спраў,—аб гэтым ніхто ніколі не гаворыць, гэта зусім абмінаецца, бо гэта „дробязь", бо самакрытыкаю свае работы баяцца падарваць аўтарытэт. Зразумела, такія справаздачы, заспакойваючы масы дабрабытам, не памагаюць у барацьбе з бюракратызмам, а змазваюць яе.

Нарэшце, вялікае значэньне ў барацьбе з бюракратызмам мае ўзмацненьне самакрытыкі наогул і высьвятленьне выпадкаў бюракратызму ў прэсе і насьценнай газэце. Самакрытыка, трэба сказаць, карысна ня толькі тым, што яна выяўляе выпадкі бюракратызму, яна асабліва карысна ў тым сэнсе, што прымушае кожнага працаўніка „падцягвацца", лепш працаваць, лепш абмяркоўваць і правільна вырашаць,—інакш пападзе на зубок самакрытыкі.

Нарэшце трэба яшчэ раз падчаркнуць, што ні бюракратызм, ні валакіта ў пераважным ліку выпадкаў не зьяўляецца неперamoжным ворагам. Як гэтыя выпадкі, так і пасьпяховая барацьба з імі, а таксама і недапушчэньне іх у практыку работы,—вельмі і вельмі часта залежаць ад жаданьня саміх работнікаў, ад іх падыходу, ад волі адзінак і калектыву, ступені сувязі апарату з масамі.

З бюракратызмам можна змагацца і можна яго змагчы!

**Ф. Ж.**

---

# Чыстка савецкага апарату,—роля саветаў і працоўных мас.

Зараз уся савецкая грамадзкасьць падымаецца на ногі вакол пытаньняў чысткі савецкага апарату. Чыстка павінна пачацца ў хуткім часе.

Паколькі гэта справа зьяўляецца вельмі важнай і складанай, дык трэба каб самыя шырокія масы працоўных ведалі, як яна будзе праводзіцца. І таму задача данага артыкулу пазнаёміць з асноўнымі задачамі чысткі і асьвятліць ролю шырокіх мас і саветаў у гэтай справе.

Чаму нам, па-першае, неабходна чысьціць наш апарат?

З аднаго боку здаецца, што, утварыўшы на места царскай улады, уладу сваю—пралетарыят тым самым і апарат улады зрабіў сваім, пралетарскім.

Але гэта ня так. Яшчэ Ул. І. Ленін колькі раз казаў:

...„Государственный аппарат очень часто работает против нас"; „...Наш аппарат страдает весьма многими недостатками; очень часто работает не для нас, а против нас..."; „Сотни тысяч старых чиновников, полученных от царя и от буржуазного общества, работающих сознательно, отчасти безсознательно против нас" і г. д.

Мы і зараз яшчэ маем вялікую засьмечанасьць апарату варожым нам элемэнтам, які ня толькі над будаўніцтвам сацыялізму ня турбуе галавы, а перашкаджае правядзенью клясавай лініі, ужывае злосныя формы бюракратызму, усяляк дыскрэдытуе савецкую ўладу.

Прывядзем зусім ня многа лічбаў. У падатковым апараце Менскай акругі выхадцаў з рабочых і сялян —13 проц., а адказных служачых

(так званых „верхаводаў“) царскага часу—17,5 проц. У падатковым апараце Віцебскай акругі выхадцаў з рабочых і сялян—25 проц., а „верхаводаў“ царскага часу—24 проц.

Хаця палітыку, зразумела, робіць не апарат, ня служачыя, але сумленнае яе ажыцьцяўленьне шмат у чым залежыць ад таго, хто яе праводзіць.

А ці можам мы ад душы сказаць, што ўсе царскія верхаводы цалкам адданы савецкай уладзе? Бязумоўна, не. Да некаторай часткі іх цалкам дапасавальна прыказка—„сколько волка не корми, а он всё в лес смотрит“.

Вось чаму ў першую чаргу мы павінны аслабаніць наш апарат ад усіх тых „бывших людей“, якія за 11 год існаваньня савецкай улады не захацелі і не змаглі перамагчы свае нянавісьці і варожасьці да рабоча-сялянскай улады і да гэтага часу ня сталі цалкам нашымі як па сваіх палітычных поглядах, гэтак і па службовай дзейнасьці.

Зразумела, пры чыстцы нельга мэханічна падыходзіць да чалавека; нельга чысьціць яго па адных толькі фармальных матывах, грунтуючыся на яго паходжаньні ці па службе ў царскі час.

У нас будуць паасобныя адзінкі, якіх мы павінны выкінуць за адно іх мінулае, але наогул самай галоўнай і асноўнай меркай да кожнага служачага павінна быць яго палітычная, грамадзкая і службовая дзейнасьць пры савецкай уладзе. Калі гэтая дзейнасьць будзе перавышаць яго „мінулае“, дык такога служачага, як карыснага і сумленнага, мы павінны пакінуць у апараце.

З другога боку, рашуча, без усялякіх віханьняў, бяз ніякага „жалю“ павінны мы вычысьціць варожы нам і шкодны элемэнт. Словам, лін'я наша пры чыстцы павінна дыктавацца інтарэсамі рэвалюцыі і карысьцю справы, а не якой-небудзь помстай ці асабістым жалем.

Але трэба казаць праўду: шкоду савецкай уладзе учыняюць ня толькі „былыя людзі“. На вялікі жаль, савецкая ўлада шмат мае шкоды і ад некаторых служачых, блізкіх нам па сваім сацыяльным паходжаньні, але якія па розных прычынах прадстаўляюць элемэнт „загніўшы“, якія сваёю работаю скрыўляюць клясавую лінію; усе хабарнікі, бюракраты, валакітчыкі, п'янічы, прыхільнікі нэпманаў і кулакоў і г. д. і г. д.

Такую катэгорыю служачых, што дыскрэдытуе савецкую ўладу, перашкаджае рабоце трэба таксама чысьціць незалежна ад яе сацыяльнага пахаджэньня. Значыцца, зноў-такі мы павінны глядзець у першую чаргу на работу служачага, на яго лінію, на яго паводзіны. Мы і тут у першую чаргу павінны ўлічваць інтарэсы справы рэвалюцыі, а не „пралетарскае паходжаньне“, якое ні ў якім разе ня можа пакрываць сабой шкоду і ня можа заўсёды абараняць шкодніка.

Іншая справа, з якімі вынікамі неабходна выкідваць з апарату служачых розных катэгорый. Выкрытага клясавага ворага, які прымазаўся да службы на шкоду савецкай уладзе, неабходна пазбавіць магчымасьці паступіць на якую-б ня было службу ва ўсіх савецкіх і грамадзкіх установах і прадпрыёмствах.

Сацыяльна ня чуждага нам работніка, які падпаўся пад уплыў былых людзей, нэпманаў, кулакоў, які вельмі „закамісарыўся“, які зрабіў тое ці іншае злачынства, які тым ці іншым сваім дзеяньнем дыскрэдытуе савецкую ўладу і г. д.—да такога работніка можна ўжываць частковыя абмежаваньні як, напрыклад, зьнімаць з адказнай галіны работы, з данай пасады, перакінуць на прадпрыёмства і г. д.

Такому работніку, у рабоце якога шкодніцтва і дыскрэдытацыі няма, але які дапусьціў асобныя памылкі--такому работніку можна зрабіць папярэджаньне і пакінуць на рабоце. Наогул, у кожным асобным выпадку неабходна ўлічваць як сацыяльнае пахаджэньне і клясавую блізкасьць, гэтак і вагу кампрамэтуючага матар'ялу. Зараз жа трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што пры чыстцы самае важнае і галоўнае--нязломная пралетарская цьвёрдасьць, калі яна будзе вызывацца інтарэсамі рэвалюцыйнай справы, і адначасна ўменьне ўважліва і падрабязна ацаніць сапраўдную карысьць любога служачага і яго сапраўдны твар.

Наступнае пытаньне--тое, як абараніць апарат, які мы зараз прачысьцім, ад далейшага засьмечваньня?

Наконт гэтага мяркуецца правесьці такія мерапрыйманьні. Рашэньні камісій па чыстцы павінны адзначацца ў працоўным сьпісе служачага, і ніякая ўстанова ня мае права прымаць на работу супрацоўнікаў без абавязковага папярэдняга азнаямленьня з працоўным сьпісам.

Гэты-ж працоўны сьпіс пры звальненьні служачага яму на рукі не выдаецца, а хаваецца ва ўстанове, адкуль па запатрабаваньню іншай установы павінен ёй перасылацца.

Як арганізуецца чыстка?

Па-першае, чыстка павінна праходзіць адкрыта, бяз усякае таемнасьці і царамоній, каб ня трэ было клясаваму ворагу шукаць якія-небудзь фармальныя, але фальшывыя матывы. Чыстку будуць праводзіць камісіі пры органах РСІ: па чыстцы цэнтральных установ—камісія пры НКРСІ, а па ўстановах акруговых, гарадзкіх раённых і вясковых—камісіі пры акруговых РСІ. Камісіі па чыстцы будуць складацца з прадстаўнікоў савецкіх і грамадзкіх установ і арганізацый і прадстаўнікоў мас рабочых, батракоў, сялян.

Але трэба адзначыць, што адны камісіі, ці органы РСІ такую вялікую і складаную справу не асіляць. У ёй вялікае месца павінна заняць уся наша савецкая грамадзкасьць, а ў тым ліку і самі саветы і асабліва сэкцыі саветаў. Бяз іх актыўнага ўдзелу, бяз іх дапамогі чыстка апарату пройдзе бяз посьпеху і ня дасьць такіх станоўчых вынікаў, якіх мы павінны дабіцца.

Якую-ж, канкрэтна, ролю могуць адыграць сэкцыі і саветы?

Сэкцыі саветаў, па-першае, шмат якіх установ, у свой час абсьледавалі, шмат якіх недарэчнасьцяй выявілі, шмат якіх учынкаў і злачынстваў з боку розных работнікаў выкрылі. Гэты ўвесь матар'ял неабходна зараз падагуліць, і перадаць органам па чыстцы. Апрача таго, у сэкцыях удзельнічаюць сотні і тысячы працоўных, якія звычайна знаёмы з непарадкамі ў нашых установах, з грубымі адносінамі супрацоўнікаў да наведвацеляў, з выпадкамі бюракратызму, цяганіны і г. д. і г. д. Хіба ня будзе карысна, калі такі матар'ял, што ёсьць у кожнага ў памяці, таксама будзе сабраны і перададзен камісіям па чыстцы?

Але, і гэтага мала. У час падрыхтоўкай работы да чысткі пры дзецца ўцягнуць можа некалькі тысяч працоўных да актыўнай дапамогі камісіям і, зразумела, удзельнікі сэкцый могуць быць не апошнімі ў гэтай справе. Калі кожная сэкцыя захоча прынесьці карысьць, яна і сама яшчэ зможа найсьці шмат шляхоў да гэтага.

Вядома, што ўсё тое, што гаворыцца пра сэкцыі, цалкам і поўнасьцю дапасавальна і да саветаў наогул.

Што-ж датычыцца ўдзелу саміх мас рабочых, сялян і служачых—дык гэта павінна ажыцьцявіцца ў такім выглядзе.

Кожны рабочы, селянін, служачы ўсё тое дрэннае, што яму вядома аб тым ці іншым служачым, ці аб цэлай групе іх, ці аб апараце наогул,—усё гэта перадае ў РСІ, у друк, пракурору, у ячэйку і г. д.—куды толькі яму лепш.

Агульныя сходы працоўных, заслухоўваючы даклады аб надыходзячай чыстцы, павінны тут-жа адзначаць свае паказаньні наконт засьмечанасьці апарату, наконт асобных шкоднікаў і выказаць сваю думку.

Але, калі-б мы абмежаваліся толькі такім удзелам масы, што яна паведамляе нас, слухае і выказваецца, а ўсю справу па чыстцы праводзяць апаратным шляхам,—гэта было-б дрэнна. Каб уцягнуць масу ў непасрэдны і жывы ўдзел, каб масы рабочых, сялян, служачых прымалі актыўны ўдзел,—неабходна зрабіць так, каб і падрыхтоўка да чысткі і сама чыстка праводзілася ў некаторай ступені рукамі самой масы. Для гэтага да кожнай установы, якая падлягае чыстцы, прымацоўваецца рабочая брыгада. У склад брыгады ўваходзяць рабочыя, батракі, сяляне і служачыя,—усе выбраныя на агульных сходах адпаведных калектываў.

Апошняе пытаньне, зьвязанае з чысткай—замена вычышчаных.

Уласна кажучы, па сваёй важнасьці гэта зусім не „апошняе" пытаньне—яно адно з галоўнейшых, адно з неабходнейшых, без якога ўся справа па чыстцы можа скончыцца глупствам. Здаецца, зусім зразумела, што калі на месца вычышчаных мы ня знойдзем адданых і сумленных работнікаў, новых, сьвежых, не сапсаваных канцэлярскім кручкатворствам, калі мы не аздаровім апарат прытокам сьвежых сіл—дык мы вялікага не дасягнем. Вось чаму чыстка і вылучэнства так цесна паміж сабой зьвязаны.

**Хведар Жукаў.**

29-III-29 г.

---

# НАШ КОНКУРС.

## Работа сэкцыі народнае асьветы Гомельскага гарсавету.

Першы пленум сэкцый народнае асьветы гарсавету XI скліканьня адбыўся 18 красавіка 1927 г., калі было выбрана бюро ў складзе 9 членаў і 3 кандыдатаў. З гэтага дню і пачынаецца работа сэкцыі. Колькасны склад сэкцыі з пачатку арганізацыі дасягаў 115 чал. (з іх членаў гарсавету—60 чал., кандыдадаў—38 чал. і практыкантаў—17 чал.) і нясупынна разрастаўся, дзякуючы прытоку дэпутатаў з іншых сэкцый і росту ліку практыкантаў. Але цяпяр сэкцыя яднае рэальна 100 чалавек.

За гэты справаздачны час сэкцыя правяла 17 камісыйных абсьледаваньняў і звыш 150 індывідуальных, значны лік якіх не паддаецца падліку. Камісыйныя абсьледваньні праводзіліся ў складзе 7—35 чал. (абсьледваньне школ сацвыху, абсьледваньне прыватных дашкольных груп і інш.).

Работа сэкцыі наогул і ў прыватна—масавая работа, перыядычна высьвятлялася ў друку як самім бюро сэкцыі, так і яе рабкорамі.

Інстытут практыкантаў таксама сябе апраўдаў. У далейшым сэкцыя лічыць патрэбным сыстэме пасылкі ў гарсавет практыкантаў прыдаць больш шырокае значэньне.

З агульнага складу сэкцыі—55 пр. членаў актыўна ўдзельнічала ў яе рабоце, прычым склад яе не аднаразова выкарыстоўваўся ў рабоце іншых сэкцый, прыватна, у сэкцыі РСІ. У дачыненьні кантынгэнту асоб, якія слаба ўдзельнічалі ў рабоце сэкцыі, прынімаліся адпаведныя меры. Аднак гэта значных вынікаў не дало. Трэба сказаць, што мэта адкліканьня дэпутатаў, якія манкіравалі сваёю работаю, у гэтым годзе выкарыстоўвался кепска. Галоўнай прычынай гэтага трэба лічыць слабую работу мандатнае камісіі гарсавету.

Пленумы сэкцыі склікаліся рэгулярна—раз у месяц, а бюро—у залежнасьці ад наяўнасьці неадкладных пытаньняў. Усяго за справаздачны час адбылося 17 пленумаў і 22 пасяджэньні бюро.

На пасяджэньнях пленумаў прысутнічалі рабочыя і служачыя. Некатрыя пленумы і бюро, паводле характару сваіх пытаньняў, зьбіраліся на супольныя пасяджэньні з іншымі сэкцыямі. Агульнае наведваньне пленумаў раўняецца 66 пр., а бюро—80 проц.

На бюро сэкцыі канчаткова разглядаюцца пытаньні больш дробныя; важнейшыя-ж пытаньні, пасьля папярэдняй падгатоўкі і абгаварэньні на бюро, выносяцца на пленум сэкцыі. Усе пастановы пленумаў і сэкцый разглядаюцца прэзыдыумам гарсавету ў прысутнасьці прадстаўнікоў сэкцыі, якія звычайна выступаюць як дакладчыкі па такіх пытаньнях.

Вось асноўныя пытаньні, якія разгледжаны сэкцыяй:

Ліквідацыя няпісьменнасьці, камплектаваньне школ, перавод дзіцячых дамоў і садоў з гораду, становішча дашкольнага выхаваньня, становішча школ сацвыху, становішча відовішч у горадзе і Залінейным райёне, пяцігадовы плян народнае асьветы, удзел жанчын у рабоце сэкцыі, праэкт сыстэмы народнае асьветы ў БССР, рэарганізацыя школ, бюджэт народнае асьветы, становішча т-ва краязнаўства, пабудова новых школ і г. д.

Якія-ж дасягненьні ў рабоце сэкцыі?

Дзякуючы кантролю і нагляду сэкцыі, дзякуючы наладжаньню сувязі бацькоў са школамі, выхаваўчая работа ў школах значна ўмацавалася. Школа дабілася вылучэньня малаздольных дзяцей у асобную школу, што аздаровіла ход навучаньня ва ўсіх школах сацыяльнага выхаваньня. Сэкцыя дабілася камплектаваньня школ ня ўвосень, а ўвесну, што зьнішчыла ранейшыя; недахопы, увядзеньня ў гэтым годзе ўсеагульнага пачатковага навучаньня і забясьпечаньня вопраткаю дзяцей беднаты, а таксама арганізацыі інтэрнату для сялянскіх дзяцей, якія навучаюцца ў сялянскай групе школы імя Карла Лібкнэхта.

Адначасна сэкцыя, улічваючы патрэбы насяленьня ў пазашкольным выхаваньні, дабілася павялічэньня ліку нулявых груп пры школах з 7 да 21, пашырэньня дзіцячых садоў і зачыненьня прыватных дашкольных груп, якія звычайна мелі характар хэдэраў.

Далей сэкцыя дабілася паглыбленьня справы аздараўленьня вучняў (адчынена Чонкаўская калёнія, дзе месячнае прабываньне больш бедных хворых вучняў дае добрыя

вынікі), пераводу дзіцячых дамоў з гораду ў вёску, што, апрача аздараўленьня жыцьця дзяцей, памагае ім набываць працоўныя навыкі па сельскай гаспадарцы і г. д.

Далей сэкцыя дабілася пашырэньня нацменаўскіх сэктараў ЦВРШ, адчыненьня ў апошняй групы для глуха-нямых, а таксама пашырэньня беларускіх і яўрэйскіх школ. Адначасна сэкцыя дабілася водпуску сродкаў на адчыненьне закрытай дзіцячай калёніі для няпоўналетніх злачынцаў, што значна аблягчыла барацьбу з дзіцячаю злачыннасьцю.

Вялікую ўвагу сэкцыя зьвярнула пытаньню патаненьня білетаў у тэатры і кіно, ажыцьцявіўшы ў гэтым ідэю залучэньня рабочых у відовішчы, і дабілася сыстэматычнага рэцэнзаваньня п'ес тэатру.

Не абмінула сэкцыя пытаньняў эканоміі апалу, у выніку чаго спажытак апалу зьмяншыўся на 100 куб. сажнёў у год.

Вялікая заслуга сэкцыі зьмяшчаецца ў тым, што яна стварыла вакол сябе жаночы актыў, залучаючы жанчын у работу сэкцыі, асабліва ў абсьледаваньні, прымацоўваючы іх да ўстаноў народнае асьветы, даючы шраг асобных даручэньняў і г. д. Наогул сэкцыя ў сваёй рабоце ўвесь час трымала курс на залучэньне ў яе мажліва большага ліку працоўных і падтрымлівала самую цесную сувязь з установамі, прадпрыёмствамі і арганізацыямі, якія мелі сваіх прадстаўнікоў у сэкцыі, што выклікала інтарэс к рабоце сэкцыі яе членаў і спрыяюча адбілася на яе наведваньні.

# Старобінскі м.-савет за працаю.

**(М. Старобін, Бабруйшчына).**

Гаворачы аб працы Старобінскага местачковага савету нельга не застанавіцца на тым, у якіх умовах прышлося м.-савету прыступіць у самым пачатку, да працы. Трэба сказаць, што местачковаму савету прышлося тады ў першы раз, як перадавіку, выступіць за паляпшэньне дабрабыту мястэчка, за ўнясеньне культуры ў мястэчка. Дзякуючы гэтаму працаваць местачковаму савету было спачатку трудна. Але ня гледзячы на гэта м.-савет з працаю справіўся. І цяпер мы маем добрыя вынікі 2-хгадовай працы. Местачковы савет складаецца з 26 сяброў і 10 кандыдатаў. З іх сялян-беднякоў—16, батракоў — 2, рабочых—9, саматужнікаў—5 і 4 служачых. Сябраў партыі ў м.-с.—6, КСМ—5.

Пры м.-с. існуе група беднаты, якая заваявала аўтарытэт сярод насельніцтва. Дзякуючы гэтаму ў м.-с. выбрана 50 проц. беднаты-сялян (з батракамі). Група беднаты вырашае пытаньні, якія закранаюць іхні быт, іхняе жыцьцё (аб с.-г. падатку, страхоўцы, самаабкладаньня). і ў гэтым група атрымлівае даволі добрую дапамогу. Бедната атрымлівае належную дапамогу і з боку каапэраваньня. Так, каапэравана беднаты 87 чалавек. І сапраўды-ж, местачковы савет за сваю працу карыстаецца даволі добрым аўтарытэтам сярод насельніцтва. Праўда, заможная частка варожа адносіцца да м.-с. і ў іх вачох м.-с. аўтарытэтам не карыстаецца. У працы м.-савету добра заходваецца плянавасьць. **Пасяджэньні пленумаў савету праходзяць рэгулярна. Ніякіх выпадкаў зрыву апошніх ня было.**

Пытаньні на вырашэньне пленуму ставіцца з папярэдняй прапрацоўкай. Цікава адзначыць зьмест дню пленума м.-с. ад 5-I—29 г.

1) Аб пасяўной кампаніі па раёну, 2) даклад аб выхаваньні дзяцей у школах (па прыкладу Старобінскай бел. сямігодкі), 3) аб захаваньні санітарных правіл у мястэчку і 4) рознае.

**Наведваньне пленумаў сябрамі савету зусім здавальняючае.** Адначасова добра ўдзельчае ў пленумах местачковы актыў, жанчыны і г. д. Даволі значнае месца ў працы мест. савету займаюць жанчыны і моладзь. У складзе савету ёсьць 8 жанчын членаў савету. Моладзь—члены савету, зьяўляюцца перадавікамі ў праводзеньні ўсёй культпрацы па мястэчку. Яны і зьяўляюцца актыўнымі працаўнікамі мест. савету. Зьвярнуў мест. савет увагу і на кіраўніцтва працай установ і арганізацый, якія існуюць на тэрыторыі местачковага савету. **Местачковым саветам заслухоўваліся справаздачы іх устаноў і даваліся належныя дырэктывы.** На прэзыдыуме мест. савету ставіліся пытаньні **аб бюракратызьме і валаніце некаторых арганізацый і ўстаноў.**

## Гаспадарчая і культурная праца.

Галоўнейшымі пытаньнямі, навакол якіх канцэнтравалася ўвага м.-савета былі пытаньн гаспадарчага і культурнага характару.

Так, м. с. арганізаваны: 1) малочная арцель, 2) мэліарацыйнае т-ва, 3) арцель шаўцоў, 4) арцель краўцоў і 5) арцель балаголаў. Зараз праводзіцца праца па землеўпарадкаваньню мястэчка. Ужо састаўлены плян землеўпарадкаваньня зацьверджан сходам гр-н мястэчка. М.-савет правёў вялікую работу пры разьмеркаваньні насельніцтву леса, а таксама пры выяўленьні аб'ектаў абкладаньня па сельск.-гасп. падатку. Уся бедната аслабанена ад апошняга м.-саветам. Праведзена самаабкладаньне ў суме 2900 р. (30 проц.).

Сродкі ад самаабкладаньня скарыстаны добра: пабудавана за іх лазьня і пажарнае дэпо. Па местачковаму савету існуюць 2 сямігодкі (1 бел. і 1 яўр.), і 1 вячэрняя школа для рабоча-сялянскай і саматужнай моладзі. З'арганізаваны 2 лікпункты. Перабояў у занятках лікпункту ня было. У мястэчку ёсьць 1 нардом з сваім уласным памяшканьнем.

## Праца камісій.

Пры местачковым савеце створаны **6 камісій**: сельска-гаспадарчая, культурная, санітарная, камунальная, каапэрацыйная і падатковая. Працуюць усе камісіі. Лепш працуюць с.-гаспадарчая, культурная, санітарная і камунальная. Праўда, не адстае ў працы і падатковая камісія.

С-гаспадарчай камісіяй створан пры нардоме сельска-гаспадарчы гурток. Камісія праводзіць працу па падняцьцю ўраджайнасьці пры дапамозе лекцый агранома. Зараз, калі праводзіцца веснавая пасеўная кампанія, камісія ў гэтым садзейнічае райагранамії, ставячы аб пасяўной кампаніі даклады перад сялянствам. Камісія арганізавала ачыстку насеньня. Культурная камісія **зьяўляецца кіраўніком усіх культурных мерапрыёмстваў у мястэчку.** Санітарная камісія рабіла агляды пекарняў, сталовак, крам і г. д. Сан. камісіяй праводзіліся лекцыі па санітарных пытаньнях. Камунальнай камісіяй пабудавана (пад яе кіраўніцтвам) лазьня, 3 масты і цамэнтавы калодзеж.

Не адстае савет пры правядзімых розных кампаніях; так, распаўсюджана сялянскай пазыкі на 700 руб. і 2-га займу індустрыялізацыі на 1700 руб.

**М. Варшал.**

# Работа Зайкаўскага сельсавету.

## (Межанскі район).

Работа сельскага савету ў 1928 г. праводзілася выключна па гадавому пляну работ, на падставе наказу выбаршчыкаў і бягучых мерапрыёмстваў улады, які, калі ня лічыць наказу выбаршчыкаў аб пабудове млыну, выканан на 100 проц. Пасяджэньні прэзыдыуму і пленуму за рэдкім выключэньнем праводзіліся па каляндарных квартальных раскладах. У парадку дня прэзыдыумаў і пленумаў первавалі пытаньні культурнага і сельска-гаспадарчага будаўніцтва.

Ужо мінула некалькі дзён пасьля выбараў саветаў, а мясцамі яшчэ не падведзены вынікі праведзенай кампаніі. Зайкаўскі-ж сельсавет мае ўжо канкрэтна выпрацаваны гадавы плян і каляндарны расклад сваё работы. Адбыўшыся 22-II—1929 г. пленум сельсавету разгледзеў і зацьвердзіў плян пасеўнай кампаніі, унёсшы ў яго адпаведныя дырэктывы па калектывізацыі сельскай гаспадаркі, пашырэньні пасяўной плошчы, збожжаачышчэньні і контрактацыі тэхнічных культур.

Выкананьне як пастаноў пленуму і прэзыдыуму, так і дырэктыў вышэйшых савецкіх устаноў, сельсавет праводзіць праз сваіх сяброў. Але-ж ёсьць выпадкі, калі работа праводзілася выключна старшынёй і сэкратаром. Вакол савету згрупавана 50 чалавек сялянскага актыву, які сельсавет скарыстоўвае на практычнай грамадзкай рабоце, дзякуючы чаму апошні значна актыўней сябраў с.-с. удзельнічае ў абгаварэньні на пленумах пытаньняў.

Вось дзякуючы таму, што ў работу с.-с. быў залучаны сельскі актыў, перадавая частка насельніцтва, савет мае цэлы шэраг значных дасягненьняў.

Так, у галіне сельскай гаспадаркі за мінулы год пасяўная плошча павялічылася на 628 дзес., перавесена на шматпольле 44 гаспадаркі, закладзена 5 паказальных вучасткаў, арганізавана 4 машынных т-вы, насенная і інш. Ёсьць 2 мэліарацыйных т-вы, якімі ўжо асушана значная плошча зямлі і сельсавет вядзе падрыхтоўчую работу па яе калектыўнай запашцы, і малочная арцель. У гэтым годзе мяркуецца арганізаваць калектыўную гаспадарку і яшчэ 2 машынныя т-вы.

Для засеву азімага кліну адсартавана 2500 пуд. збожжа. Збожжаачышчальны абоз, прапрацаваўшы з кастрычніка мес. у Зайкаве, з 3-га лютага пушчан у аб'езд з тым разрахункам, каб усе населёныя пункты аб'ехаць к 15-III—39 г.

Значную ўвагу зьвяртаў сельсавет і на кіраваньне і дапамогу ў рабоце грамадзкім арганізацыям. Так, напрыклад, малочная арцель Зайкава, якая ў свой час апынулася перад фактам зачыненьня, пры належнай увазе с-с вышла з цяжкага становішча і значна ўмацавалася: да 1928 г. у арцелі лічылася 25 пайшчыкаў з 20 р. паявога капіталу і з запазычанасьцю каля 343 р., а зараз яна мае 200 пайшчыкаў, 770 р. паявога капіталу, закупіла 6 вагонаў канцэнтраваных кармоў і зараз уся прадукцыя пайшчыкамі здаецца ў арцель, тады як у мінулым часта збывалася на прыватны рынак. Зараз у гэтай арцелі праводзіцца работа па пераводу паёў на жанчын, і калі гэтая работа будзе праведзена— арцель яшчэ больш эканамічна ўмацуецца.

Здавальняюча праходзіць і работа камітэту ўзаемадапамогі, які загатаваў да пасеўнай кампаніі 314 пудоў усялякага насеньня і мае 176 руб. Для наладжаньня сельска-гаспадарчых машын арганізавана і абсталявана кузьня.

У грашова-падатковай рабоце, сельсавет мае самастойны каштарыс. Выкананьне прыбытковай яго часткі складае 95 проц. Сельска-гаспадарчы падатак за 1928 г. к 15-II—1929 г. выканан на 100 проц. і страхплацяжы спагнаны к 22-II—1929 г. на 95 проц. Дзякуючы праведзенай значнай растлумачальнай рабоце самаабкладаньне населеніцтвам па ўсяму сельсавету прынята ў 25 проц. У мінулым годзе самаабкладаньня было налічана на суму 2201 р. 71 к., з якіх спагнана і скарыстана 2148 р., на што пабудавана 42 новых масты і 36 адрамантавана; папраўлена 12363 мэтра дарогі. Набыт радыёпрыёмнік для хаты-чытальні і неабходныя прылады для школ, а пры Зайкаўскай школе на гэтыя сродкі адчынена рамесьніцкая кляса.

Па распаўсюджваньню дзяржаўных пазык с.-с. таксама не пляцецца ў хвасьце. Па сялянскай пазыцы заданьне ў 800 руб. выпаўнена на 827 р. 50 к.; па другой пазыцы індустрыялізацыі заданьне ў 400 р. выпаўнена на 430 р.

У галіне культасьветнай работы таксама ёсьць значныя дасягненьні. У 6 лікпунктах абучаецца 153 няпісьменных, а 36 чал. напісьменных, выяўленых дадаткова, сельсавет мае намер абучыць праз вучняў старэйшых клясаў, з тым, каб у бягучым годзе скончыць ліквідацыю няпісьменнасьці. Хата-чытальня пры сельсавеце таксама можа служыць сваёй пастаноўкай работы прыкладам для іншых. Уся культасьветработа праводзіцца па пляну, цесна ўвязанаму з аграпрапагандай і антырэлігійнай работай. Хата-чытальня прымае актыўны ўдзел ва ўсяляхіх кампаніях. Пры хаце-чытальні існуе 5 гурткоў: сельска-гаспадарчы, антырэлігійны, вайскова-спартыўны і інш., у работу якіх уцягнута 91 селянін. Вакол існуючых 8 чырвоных куткоў на абшарах с.-с. згрупавана таксама 33 асобы. Усёю работаю хаты-чытальні і чырвонымі куткамі кіруе савет, складзены ў ліку 11 асоб з прадстаўнікоў культурных і грамадзкіх устаноў. Пры хаце-чытальні ўжо 5 год выдаецца насьценная газэта пры актыўнай дапамозе селькораўскага гуртка і сялянскага актыву. Зварочвае на сябе ўвагу чыстата і ахайнасьць, што зразу заўважваецца пры ўваходзе ў памяшканьне хаты-чытальні. Глядзельная заля прыстасаваная для спэктакляў, уся ўпрыгожана рознакалёрнымі плякатамі: тут плякаты і аб сацыялістычным будаўніцтве, і пра новы быт, і супроць алкаголю, і антырэлігійныя, і дыяграмы па сельскай гаспадарцы і г. д.

Ня можа сельсавет толькі пахваліцца каапэраваньнем насельніцтва. Гэтую работу было цяжкавата праводзіць, асабліва пасьля таго, як былы старшыня с.-гасп. т-ва, заможнік Насьцюшэнка, пусьціў у трубу 3000 руб., а былы жандар Глухоўскі ліквідаваў Зайкаўскую малочную арцель са стр[illegible]ю ў 390 руб. Але-ж ня гледзячы на гэта па сельсавету каапэравана сельска-гаспадарчай каапэрацыяй 482 гаспадаркі і спажывецкай—254.

Вось у кароткіх рысах работа і дасягненьні за мінулы год у Зайкаўскім с.-с.

Качэрэў.

# І дасягненьні і недахопы.

## (Гатаўскі сельсавет, Самахвалавіцкага р., Менскай акругі).

На тэрыторыі Гатаўскага сельсавету зьмяшчаецца 6 буйных вёсак і 8 дробных, у складзе якіх 464 гаспадаркі; з ліку гэтых гаспадарак —13 заможных, 322 серадняцкіх і 129 бядняцкіх.

С.-саветам работа вялася калектыўна з захаваньнем клясавай лініі і абароны інтарэсаў беднаты; сувязь з беднатою с-с трымае самую шчыльную і ў ёй мае моцную апору ў сваёй дзейнасьці.

**Пасяджэньні пленуму с-с рэгулярна скліканіся кожны месяц.**

За ўвесь час было праведзена **16 пленумаў**, на якіх **вырашана 24 пытаньні** пры ўдзеле актыву.

Наведваньне пасяджэньняў членамі сельсавету і актывістамі выражаецца ў колькасьці **75 проц.**

Прэзыдыумаў с-с за справаздачны пэрыяд адбылося **39**, з якіх разгледжана **137** пытаньняў.

Згодна пастановы пленуму сельсавету дзеля наданьня сваёй рабоце масавасьці па вёсках праведзена было **71** сход.

Пытаньні, даклады і праэкты рэзалюцый, якія выносіліся на абгаварэньне агульных сходаў грамадзян, а таксама і пленуму сельсавету, загадзя падрыхтоўваліся калектыўна ў савеце і ўзгадняліся з мясцовай ячэйкай КПБ.

Як недахоп, трэба адзначыць, што сельсавет не зрабіў ніводнага пасяджэньня як пленуму, так і прэзыдыуму з выездам у вёскі; дадзеныя наказы выбаршчыкаў сельсавет выканаў усяго на 50 проц.; дрэнна была вытрымана плянавасьць у рабоце сельсавету, хаця апошняй перашкаджалі кампаніі.

Работа сярод жанчын праводзілася на дэлегацкім пункце, дзе было праведзена, пад кіраўніцтвам прадстаўніка ад жанаддзелу, пяць пасяджэньняў. Жанчын-членаў савету і прымацаваных дэлегатак-практыкантак ня было выдзелена, але ў апошнія перавыбары амаль-што па кожнай **вёсцы праведзены агульнымі сходамі жанчыны-бядначкі ў члены сельсавету і з гэтага году** праца ў сельсавеце будзе весьціся пры ўдзеле жанчын.

Вынесеныя сельсаветам пастановы па вырашаных пытаньнях на пленуме і прэзыдыуме носяць канкрэтны характар.

Праверка выкананьня пастаноў сельсавету праводзілася на прэзыдыуме сельсавету пры справаздачах членаў сельсавету аб зробленай імі рабоце, а таксама згодна дасылаемых з месц пратаколаў. Дзе работа затрымоўвалася, у такі пункт выяжджаў старшыня сельсавету. Што датычыцца **праверкі дырэктыў вышэйшых органаў, дык апошняя не рабілася.**

Гаспадарчая работа сельсавету вызначылася ў правядзеньні земляўпарадкаваньня ў сяле Гатаве, пачатага па ініцыятыве самога насельніцтва; па вёсках Кацягі і Чурылавічы сельсаветам зроблена падрыхтоўка да земляўпарадкаваньня гэтых вёсак з будучага году. Атрымана бяднейшай і серадняцкай частхай насельніцтва ў крэдыт ад 2 да 4 год сто сорак дзевяць сельска-гаспадарчых машын: 45 малатарняў, 32 арфы, 45 сячкарняў, 12 драпачоў і 15 плугоў; выдадзена рознага штучнага ўгнаеньня 12 тон.

Справа па каапэраваньню насельніцтва ў сельсавеце пастаўлена добра: скарыстаны ўвесь фонд на каапэраваньне беднаты, уведзены 74 новых пайшчыкі ў крэдытнае таварыства, спажывецкае, семянное т-вы і малочную арцель, засталося вольнага фонду 100 руб. у адным толькі тарфяным таварыстве з прычыны адсутнасьці жадаючых каапэравацца.

Адчынена новае аддзяленьне спажывецкай каапэрацыі ў вёсцы Плябанцах, пасьля чаго завербавана яшчэ 50 новых членаў з сярэдняй сумай паю ў 6 руб.

З боку фінансавай дзейнасьці сельсавету, новых крыніц, апрача самаабкладаньня,—ня было. Агульная лічбіна самаабкладаньня мінулага году складала 2200 руб.

Сродкі ад самаабкладаньня скарыстоўваліся па прызначэньні: зроблены рамонт будынкаў Гатаўскае школы і фэльдчпункту, зроблена грэбля каля Гатава, пабудавана два масты і дзьве дарогі, для Плябанцаўскай дабраахвотнай пажарнай дружыны набыты інвэнтар: бочкі, крукі, сякеры, шлеі на 2 коняй, калёсы.

Па ўцягненьні насельніцтва ў касы ашчаднасьці зроблена мала, за тое ў справе распаўсюджваньня дзяржаўнае пазыкі 2 займу індустрыялізацыі вынікі добрыя: распаўсюджана пазыкі на 960 рублёў па вёсках і сярод рабочых плямгасу Калініна—500 руб., разам 1460 рублёў у той час, як заданьне было толькі на 900 руб. (выканана 173 процанты заданьня).

Пазыкі ўзмацненьня сельскай гаспадаркі рэалізавана на суму 1600 руб.

Збор плацяжоў і падаткаў праходзіў па сельсавету бяз ужываньня прымусовых мер. Парушэньняў з боку сельсавету па збору падаткаў ня было.

У сацыяльна-культурных адносінах насельніцтва абслугоўвалася 4 школамі: па ўсяму сельсавету ўведзена абавязковае навучаньне, за якім сельсавет з свайго боку сочыць добрасумленна: бацькі некаторых вучняў за ненаведваньне апошнімі школы прыцягнуты былі да адказнасьці і аштрафаваны па 3 рублі кожны. Пры школах існуюць лікпункты і 1 вячэрняя школа малапісьменных.

Усё батрацтва ўзята на вучот і 35 чалавек застрахавана за кошт нанімацеляў. Па сельсавету выпісваецца 101 экзэмпляр „Беларускае Вёскі“, 52 экзэмпляры розных іншых газэт і 21 часопісь.

У справе паляпшэньня дабрабыту ў вёсцы сельсаветам адбудаваны 2 масты, 2 дарогі і набыты інвэнтар для аднэй пажарнай дружыны за сродкі самаабкладаньня, прасунута ў масы думка аб агнятрывалым будаўніцтве: частка грамадзян пры пабудове новых хат адмовілася ад саламянага матар'ялу для дахаў і ўжыла чарапіцу, новыя калодзежы былі пабудаваны з бэтонных кругоў. Па вёсках Гатаўскага сельсавету ёсьць пяць дабраахвотных пажарных дружын, кіраўніцтва якімі з боку сельсавету недастатковае. Сельсавет абмежаваўся толькі праверкаю працы і набыцьця інвэнтару Плябанцаўскае пажарнае дружыны і аднаго разу склікаў нараду выканкомаў пажарных дружын і то няўдала, бо амаль што ніхто на гэту нараду не зьявіўся.

Камісій, якія працавалі пры сельсавеце, было толькі **тры**: падатковая, лясная і каапэрацыйная. Праца **гэтых камісій не насіла плянавага характару, за выключэньнем** падатковай, якая складалася з старшыні сельсавету, старшыні КСУ, сакратара сельсавету і 2 асоб ад сялянства; камісія гэта мела **тры пасяджэньні**, на якіх разглядаўся і абгаварваўся бюджэт сельсавету, а таксама яго разьмеркаваньне, ста-

[вя]лася пытаньне аб вучоце і ўзысканьні падаткаў, а таксама разьмяркоўваліся паміж беднатой ільготы па гаспадарчаму падатку.

Лясная камісія сабралася на 1 пасяджэньне, на якім разглядзела адно пытаньне аб разьмеркаваньні лесу, якога адпушчана было ў ліку 1660 пнёў.

Праверку аб правільным скарыстаньні адпушчанага лесаматар'ялу рабіў сельсавет, прычым выкрыты быў адзін толькі выпадак скарыстаньня лесаматар'ялу не па прызначэньні.

Работа **каапэрацыйнай** камісіі насіла таксама **нерэгулярны характар і мела ўсяго два пасяджэньні**, на якіх разглядала пытаньне аб адчыненьні аддзяленьня спажывецкага таварыства.

Згодна пастановы пленуму пры сельсавеце павінна была працаваць сельска-гаспадарчая камісія, але ніводнага разу яна ня была склікана, а між іншым толькі праз гэту камісію і магчыма падвысіць ролю савету ў падняцьці і перабудове сельскае гаспадаркі.

У апошнія часы была арганізавана пры сельсавеце **камісія дапамогі беднаты вучням**, якая сабрала праз пастаноўку спэктакляў і лётарэі 111 рублёў грошай, якія разьмеркавала сярод мясцовых школ.

Падрыхтоўка пытаньняў, разгледжаных на пасяджэньнях камісій, вялася сельсаветам.

На справаздачных сходах праца сельсавету грамадою была прызнана здавальняючаю, падкрэсьлівалася нездавальняючая праца камісій сельсавету з патрабаваньнем разгарнуць у будучым працу ўсіх камісій.

**А.**

# Дзе актыўнасьць, там і добрыя вынікі працы.

## (Па конкурсу на лепшы с.-савет).

**Лошніцкі с.-с.**, Барысаўскага раёну абслугоўвае 661 двор з насельніцтвам 3332. З намечаных па пляну 27 пленумаў—праведзена 26. Пасяджэньні прэзыдыуму праведзены поўнасьцю—32. Пленумы праходзілі з актыўным удзелам сялян, асабліва беднаты. Пры сельсавеце існуе тры камісіі: сельска-гаспадарчая, падатковая і культурна-санітарная. **Камісіі працавалі вельмі добра, асабліва культурна-санітарная, ёю зроблен агляд каапэрацыйных крам**, студняў, арганізавана сельска-гаспадарчая школа, якая падрыхтоўвае пераход да земляўпарадкаваньня. Наведвае школу больш 100 асоб у большасьці пажылыя сялянкі і сяляне; адчынена школа сялянскай моладзі, гурток малапісьменных і гурток, дзе навучаюцца зусім няпісьменныя, у ліку якіх 50 проц. жанчын. Нардом пры сельсавеце вядзе вялікую культурную працу, ахапіў і 2 суседніх сельсаветы, Негнавіцкі і Навасельскі;—адчынены і працуюць **8 чырвоных куткоў**. Пры сельсавеце **арганізован справачны стол**, якім за апошні квартал (3 м-цы) напісана дармова сялянам 368 розных заяў. Падатковая камісія займалася разьмеркаваньнем скідачнага фонду па страхавых плацяжох, аслабаненьнем ад падатку бядняцкіх гаспадарак, выкрыцьцем аб'ектаў абкладаньня, разглядам заяў аб зьняцьці с.-г. падатку і інш.

Гаспадарчая камісія зрабіла разьмеркаваньне запаснага зямфонду, аддала яго ў карыстаньне беднаце да земляўпарадкаваньня; гэтая камісія вядзе нагляд за здачай у арэнду зямлі, рабіла разьмеркаваньне дармовага і крэдытнага лесу, ставячы на зацьверджаньне гэта разьмеркаваньне на сходах беднаты. **Сельсаветам арганізавана калектыўная гаспадарка** Мужанка з 6 бядняцкіх гаспадарак, але за адсутнасьцю каморніка зямля пакуль што не абмерана. Дзеці школьнага ўзросту не ахоплены школай — па в. в.: Валянцінава, Пратысоўшчына і Галубы. Сельсавет прымаў усе загады да адчыненьня там школы. На абсталяваньне выдзелена сума са сродкаў самаабкладаньня, але па заяве старшыні с.-с. РВК не дае платнага настаўніка. **Пры сельсавеце арганізавана ткацкая арцель „Беларуская Ткачыха“** на 6 станкоў—ткуцца узорныя коўдры, **арганізаваны гурткі: вышывальны, шыцьця і кройкі**; пры арцелі ёсьць спэцыяльны **гурток па тканьню паясоў**. Вырабы здаюцца ў Менск. Вясковыя дзяўчаты ўцягнуты ў працу, атрымліваюць кваліфікацыю і паляпшаюць заработкам свае гаспадаркі. Праца ўрачэбнага пункту ўвязана з працай сельсавету. Урач малады актывісты часта і плянава чытае сялянам лекцыі на розныя тэмы. Сельсавет рэагіраваў на склокі фэльчара пункту Дзямідчыка і апошні РВК адозван. Дырэктывы вышэйшых устаноў і заявы грам. с. с. выконвае сваечасова і таму скарг на сельсавет не паступала. Група беднаты пры с.-с. складаецца з 16 сябраў с.-с,—беднякоў. Праца с.-с. выключна калектыўная. Напрыклад, пытаньне аб разьмеркаваньні лесу, аслабаненьне ад с.-г. падатку і інш. спачатку абгаварываюцца адпаведнай камісіяй сумесна са старшынёй камітэту ўзаемадапамогі, потым выносяцца на абгаварэньне групы беднаты, а апошняя выносіць гэтыя пытаньні на абгаварэньне агульных сходаў беднаты, якімі кіруе ячэйка КПБ, а больш вострыя пытаньні замацоўваюцца пленумам с.-с.—і таму скарг на няправільныя дзеяньні сельсавету ня бывае. Сельсавет сумесна з ячэйкай КПБ прымае захады да таго, каб адчыніць дзіцячыя ясьлі. У мэтах падняцьця актыўнасьці жанчын вярбуюцца падпісчыцы на журнал „Работніца і Сялянка“; да гэтага часу ўжо навярбована 52 падпісчыцы, якія выпісалі журнал кожная на паўгода. Па вёсцы Лошніца газэта выпісваецца на кожныя паўтара двары, а па сельсавету ў сярэднім на кожны 3 двары. Зернаачышчальны абоз разгарнуў сваю працу шырока. Ужо ачышчана насеньне па в. Баяры, Пратасоўшчына, Валенцінава, Галубы. З недахопаў можна падкрэсьліць тое, што некаторыя сябры с.-с. мала праявілі актыўнасьці; так адзін пленум с.-с. не адбыўся толькі таму, што член с.-с. не абвясьціў насельніцтву вескі. Наогул, сельсавет у працы быў вельмі актыўным і добра кіраваў падпарадкаванымі яму органамі.

**Лошніца П. Пятроў.**

# Адзін з лепшых.

**(Аленавіцкі с.-с., Коханаўскага РВК на Аршаншчыне).**

Аленавіцкі с.-с. па сваёй дзейнасьці зьяўляецца сапраўды **адным** з лепшых с.-сав. раёну, дзякуючы чоткасьці працы, выконваньню дырэктыў і абслугоўваньню насельніцтва. Аленавіцкі с.-с. яднае 22 насельных пунктаў, з лікам 585 двароў. Сельсавет яднае 18 розных прадпрыёмстваў, школ, таварыстваў і інш. Ёсьць 1 саўгас з броварным заводам (Гаршэўшчына); 1 спажывецкае таварыства з 2 аддзяленьнямі і 1 загатоўчым пунктам; 6 розных с.-г. і іншых таварыстваў, 6 пачатковых школ, 1 хата-чытальня і 1 школа малапісьменных.

Усе гэтыя арганізацыі ў той ці іншай меры падпарадкаваны с.-с. і працай іх зацікаўлен с.-с., які праверае іх работу і дае свае дырэктывы.

Для дапамогі працы с.-с. пры апошнім ёсьць група актыву ў ліку 38 чал., у склад якое ўваходзяць беднякі, жанчыны-дэлегаткі, актыў вясковай моладзі, настаўніцтва. На сходах гэтае групы абгаварваюцца пытаньні ўздыму працы, лепшаму правядзеньню дырэктыў вышэйстаячых органаў улады, розных правядзеньнях кампаній і інш., якія потым разьвязваюцца на пашыраных пленумах с.-с.

**Аўтарытэтнасьць с.-с.** ў вачох вакольнага насельніцтва, арганізацый і раёных устаноў—**значная**. Гэту аўтарытэтнасьць мажліва заўсёды бачыць у тых зваротах сялянства да працаўнікоў прэзыдыуму у штодзённых іхніх запатрэбах, а таксама і ў наведваньні нарад, пленумаў і сходаў сельсавету. Дысцыплінаванасьць сярод членаў с.-с. добрая. 80-90 проц. з членаў сельсавету кожны раз прысутнічае на пленумах і нарадах.

На пленуме с.-с. бывае заўсёды ня менш 10-20 чал. сялян.

За апошні год праведзена пасяджэньняў прэзыдыуму—24, пленумаў—12, канфэрэнцый—2. Разгледжана на іх 130 розных пытаньняў.

Усе разобраныя на пасяджэньнях пытаньні адбіваюць у сябе выкананьне наказаў выбаршчыкаў і дырэктыў вышэйстаячых кіруючых органаў савецкае ўлады, і захоўваюць клясавую лінію, забясьпечваючы інтарэсы працоўнага насельніцтва, у першую чаргу батрацтва і беднаты.

Сельсавет працуе калектыўна, абгаварвае ўсе пытаньні на пленумах, прэзыдыумах, нарадах, канфэрэнцыях, сходах з шырокім удзелам актыву, беднаты, жанчын-грамадчыц, прадстаўнікоў арганізацый.

Сельсаветам прароблена шмат карыснага для вёскі.

У галіне сельска-гаспадарчае працы: арганізаваны 2 калгасы з плошчай 130 гэкт., аб'ядноўваючых 22 гаспадаркі вясковае беднаты. Створаны 4 таварыствы (малочнае, тарпяное, мэліярацыйнае, машыннае), з лікам 144 сябраў. Земляўпарадкаваны 2 вёскі, яднаючыя 103 гаспадаркі на плошчы 663 гэкт., а таксама і 1 калгас і 1 саўгас. Пераведзена на шматпольле 4 вёскі, плошчай 1244 гэкт., з 231 гаспадаркай. Пры правядзеньні всеньняй і весеньняй пасеўнай кампаніі сялянствам ачышчана 2137 пуд. насеньня; пераменена ў саўгасе на лепшыя гатункі да 1000 пуд.

Гэтыя мерапрыёмствы дзеля ўзьняцьця сельскае гаспадаркі ня скончаны і праз с.-г. крэдытную каапэрацыю па настойліваму трэбаваньню сельсавета—сялянству адпушчана крэдыту на 6700 руб., з іх 1200 руб. на ўгнаеньне, 4500 р. на контрактацыю бульбы і сыравіны льна-валакна і 1000 р. на набыцьцё с.-г. прылад і машын.

Справа каапэраваньня насельніцтва ў сельсавеце ідзе шпарка ўперад. У сучасны момант ёсьць каапэраваных спажывецкай каапэрацый 356 гаспадарак, альбо 6 проц. усіх гаспадарак. За фонд беднаты каапэравана 53 гаспадаркі, альбо 19 проц. Пай у сярэднім даведзен да 8 рублёў. С.-г. кр. каапэрацыяй ахоплена 128 гасп., альбо 22 проц.

Сельсавет праз спажывецкую каапэрацыю забясьпечвае патрэбы беднаты хлебам, выдаючы апошні па сьпісах, а таксама сочыць за ходам загатаўленьня.

Кампанія вучоту аб'ектаў с.-г. падатку праведзена сёлета сельсаветам у напрамку павышэньня прыбытковых крыніц раёнага бюджэту (свайго бюджэту сельсавет ня мае) і выяўленьне скрытых відаў аб'ектаў-падатку.

Вынікам кампаніі зьявілася: выкрыта зямлі 458 гэкт.; жывёл 146 галоў; неземляробчага прыбытку—6623 руб. Абскардзілі на вучот 18 гр-н, з іх 10 індывідуалаў. Збор плацяжоў падатку праводзіцца сябрамі сельсавету своечасова. У сучасны момант нядоімка па с.-г. падатку складае 3 проц. сумы падатку; па страхавых плацяжох 4 проц. На правядзеньне дзяржаўных пазык у вёску была зьвернена вялікая ўвага. Пры дапамозе грамадзкасьці вёскі (настаўніцтва; КСМ; жанчын-грамадчыц) рэалізавана пазыкі ўзмацненьня сельскае гаспадаркі на 3200 руб.; II пазыкі індустрыялізацыі на 3265 р. Заданьні выконваліся ад 100-103 проц. Самаабкладаньне ў 1927-28 г. праведзена па ўсім вёскам на 35 проц. па с.-г. падатку на суму 3285 руб., якая скарыстана цалкам на ўсе 100 проц. на мэты, вызначаныя агульнымі сходамі сялян.

На 1928-29 г. праведзена самаабкладаньне па ўсіх вёсках на 25 проц. да с.-г. падатку на суму 3418 р. 50 к., з якой вызначана на культасьветныя патрэбы 40 проц.; пажарахову—10 проц. і розныя мясцовыя патрэбы 50 проц., як рамонт мастоў, шляхоў, трыманьне лясной варты лесу мясцовага значэньня.

Культасьветная праца і дабрабыт вёскі мае дакладнае мейсца ў справе сельсавету.

Дзяцей ахоплена школамі 452, альбо 75 проц. школьнага ўзросту.

Пры Аленавіцкай хаце-чытальні існуюць: 2 яч. Моп'р—з 136 членамі; 2 яч. ТДА-авіахім—з 83 чл., 1 яч. бязбожнік з 43 чл.; 1 яч. прэч няпісьменнасьць з 56 чл.; 1 яч. Чырвонага Крыжу, з 21 чл.

Сельсаветам ажыцьцяўляецца кіраўніцтва гэтымі арганізацыямі праз заслухоўваньне справаздач на прэзыдыумах, пленумах і іх абсьледваньнях.

Апрача ячэек пры хаце-чытальні існуюць гурткі: 1 сельскай гаспадаркі—18 чал.; 2 палітычных—37 чл., 1 селькораўскі—16 чл.; 2 драматычных—38 чл.; 2 вайсковых—42 чл.; 1 шыцьця і кройкі—25 чл.; 1 каапэратыўны—19 чл., праца якіх ажыцьцяўляецца сельсаветам праз савет хаты-чытальні.

Матар'яльная дапамога сялянству была аказана праз СКУ, шляхам выдачы 30 гаспад.—93 пуд. аўсу; і 43 гасп.—108 р. 48 к.

Юрыдычная дапамога насельніцтву аказваецца праз стол даве-

дак, арганізаваны пры хаце-чытальні.

Па справе дабрабыту вёскі сельсаветам праведзена: пабудаваны 2 масты; адрамантаваны 3 масты мясцовага значэньня, зроблены рамонт грунтавых шляхаў па ўсяму сельсавету. Арганізаваны 8 пажардружыны з лікам 84 чал. Дружыны забясьпечаны ў дастатковай колькасьці пажарным інвэнтаром, а ў 2 з іх ёсьць і пажарныя машыны.

Побач з дасягненьнямі ў працы с.-с. ёсьць хібы: недастатковая праверка с.-г. дырэктыў даваемых падпарадкаваным установам і арганізацыям, дзякуючы перагружанасьці сяброў прэзыдыуму с.-с. рознымі кампаніямі. Слабы вучот работы ў галіне сельска-гаспадарчых канфліктаў сярод сялянства; слабае ўцягненьне сялянства ў лік укладчыкаў у касы ашчаднасьці і неразгорнутасьць работы каапэрацыйнай і гаспадарчай камісій. Але гэты недахоп нязначны і ня дзіва, што ў час справаздачнай кампаніі сялянства дало ацэнку работы с.-с.—добрай, адбіваючай клясавую лінію, абараняючай інтарэсы працоўнага насельніцтва. За ўвесь час работы рэвізійная камісія с.-с. і аглядальнікі ад РВК не заўважылі ні растрат, ні прысваеньня грамадзкіх грошай, а таксама бюракратызму, валакіты і парушэньняў дырэктыў наказчыкаў вышэйстаячых арганізацый.

Сельсавет абавязан добрай пасьпяховасьці ў сваей рабоце таму, што мае цесную сувязь з партячэйкай і дастатковае з яе боку кіраўніцтва, а таксама на 90 проц. уцягнутасьці ў сваю практычную работу вясковага актыў (настаўніцтва, дэлегатак і інш.).

Селькор-асьветнік Бяляеў.

# Агляд пастаноў па пытаньнях будаўніцтва саветаў.

## За сакавік 1929 г.

1. 2 сакавіка Прэзыдыум ЦВК БССР зацьвердзіў Палажэньне аб сельскіх сходах. Аб гэтым у нумары 7 (апошні) „Саветаў Беларусі" зьмешчан артыкул: „Палажэньне аб сельскіх сходах".

2. 2 сакавіка Прэзыдыум ЦВК прыняў дапаўненьне да арт. 18 Палажэньня аб гарадзкіх саветах. Згодна гэтага дапаўненьня, у буйных гарадох, з дазволу Прэзыдыуму ЦВК БССР, апроч Камунальнага Аддзелу могуць утварацца і іншыя аддзелы гарадзкога савету.

3. 2 сакавіка Прэзыдыум ЦВК вызначыў склад акруговых і раёных выканаўчых камітэтаў і іх прэзыдыумаў. Склад акруговых выканаўчых камітэтаў устаноўлены ў ліку ня болей 55 членаў і 15 кандыдатаў да іх і склад прэзыдыумаў АВК у ліку ня болей 11 членаў. Склад раённых выканаўчых камітэтаў тых раёнаў, у якіх маюцца гарады, устаноўлены ў ліку 30 членаў і 9 кандыдатаў да іх. Склад РВК усіх іншых раёнаў устаноўлены ў ліку 25 членаў і 7 кандыдатаў да іх. Склад прэзыдыумаў РВК устаноўлены ў ліку 7 членаў.

4. Па пастанове VIII Усебеларускага Зьезду Саветаў з 12 акруг былі скасаваны 4. Застаўшыяся 4 былыя акруговыя гарады,—Барысаў, Слуцак, Рэчыца і Клімавічы, згодна пастановы VIII Усебеларускага Зьезду Саветаў, былі падпарадкаваны непасрэдна адпаведным акруговым выканаўчым камітэтам. Пасьля гэтага ўрадам Саюзу ССР былі зацьверджаны „Асноўныя палажэньні аб арганізацыі ў Саюзе ССР гарадзкіх саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў". Згодна арт. 29 гэтага закону ўсе гарадзкія саветы павінны быць падпарадкаваны тым выканаўчым камітэтам, на тэрыторыі якіх яны знаходзяцца. У сувязі з гэтым, а таксама ў адпаведнасьці з арт. 12 новага Палажэньня пра гарадзкія саветы, Прэзыдыум ЦВК БССР пастанавіў 2-га сакавіка Слуцкі, Рэчыцкі і Клімавіцкі гарадзкія саветы падпарадкаваць непасрэдна адпаведным раённым выканаўчым камітэтам. Гэтая пастанова ўключаецца ў справаздачу ўраду БССР IX Усебеларускага Зьезду Саветаў.

5. 2-га сакавіка ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову пра арганізацыю аддзелаў рабоча-сялянскіх інспэкцый акруговых выканаўчых камітэтаў. Структура аддзелаў рабоча-сялянскіх інспэкцый акруговых выканаўчых камітэтаў устаноўлена наступная: загадчык, калегія, бюро скаргаў. Загадчык аддзелаў РСІ выбіраецца АВК, члены калегііназначаюцца прэзыдыумам АВК. У неакруговых гарадох па пастанове адпаведнага РВК альбо гарадзкога савету і з дазволу акруговага выканаўчага камітэту, можа быць выдзелены ўпаўнаважаны акруговай рабоча-сялянскай інспэкцыі.

6. 2-га сакавіка ЦВК і СНК БССР зацьвердзілі Палажэньне аб камісіях рабоча-сялянскай інспэкцыі пры раённых выканаўчых камітэтах, сельскіх і мястэчковых саветах. Мэты ўтварэньня гэтых камісій—больш поўнае прыцягненьне рабочых, батракоў і сялян-беднякоў і серадзнякоў да працы рабоча-сялянскай інспэкцыі ў справе змаганьня з бюракратызмам, цяганінай, нядбайнымі адносінамі да службовых спраў, няўважлівымі зьняважальнымі адносінамі служачых мясцовых устаноў да наведвальнікаў. Пры сельскіх саветах камісіі РСІ ўтвараюцца РВК толькі па ўзгадненьні гэтага пытаньня з акруговымі аддзеламі РСІ. На чале камісій стаяць старшыні, якія назначаюцца пленумамі ці прэзыдыумамі РВК альбо сельскіх ці мястэчковых саветаў па належнасьці. Членамі камісій зьяўляюцца дабраахвотна запісаўшыяся для работы ў іх члены РВК, члены саветаў, рэвізійных камісій, камітэтаў сялянскай узаемадапамогі, арцеляў, калгасаў і іншых арганізацый працоўных. Да кампэтэнцыі камісій РСІ належыць: абсьледваньне розных устаноў і арганізацый, што знаходзяцца на тэрыторыі РВК альбо сельскіх і мястэчковых саветаў: прыём і расьсьледваньне скаргаў працоўных; ужываньне захадаў да зьнішчэньня недахопаў у працы устаноў і арганізацый і кантроль за сваечасовым і правільным ажыцьцяўленьнем пастаноў мясцовых і цэнтральных органаў. Камісіі маюць права рабіць вінаватым перасьцярогу, вымову і зьнімаць з пасады асоб, якія падпарадкаваны адпаведным саветам або РВК і гэтыя пастановы ажыцьцяўляюцца толькі

пасьля зацьверджаньня іх РВК, сельскім або местачковым саветам па належнасьці. Камісіі РСІ павінны падтрымліваць сувязь з працоўнымі масамі і з акруговымі аддзеламі РСІ.

6. 9 га сакавіка ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову аб дапаўненьні Крымінальнага Кодэксу БССР новым артыкулам, які прадугледжвае перашкоджваньне асобам наймовае працы ў сельскіх і мясцовасьцях ажыцьцяўляць іх выбарчыя правы. Наймальнік, які будзе прызнаны вінаватым у гэтым, караецца штрафам да 500 рублёў, альбо прымусовай працай да 6 месяцаў, а калі гэтае-ж дзеяньне будзе накіравана супроць групы рабочых з 3 асоб і больш, або будзе зроблена не ўпяршыню—штраф можа павялічвацца да 1000 рублёў і прымусовая праца да 1 году.

7. 16-га сакавіка Прэзыдыум ЦВК на падставе 26 арт. Канстытуцыі БССР устанавіў наступны лік дэлегатаў на IX Усебеларускі Зьезд Саветаў ад паасобных акруг: ад Аршанскай—65 дэлегатаў, Бабруйскай—91, Віцебскай—75, Гомельскай—85, Менскай—116, Магілеўскай—96, Мазырскай—40, Полацкай—45. Дэлегаты ад гарадзкіх саветаў будуць выбірацца на акруговых зьездах саветаў. Пасылка на зьезд дэлегатаў з дарадчым голасам не павінна мець месца.

8. 23-га сакавіка Прэзыдыум ЦВК скасаваў сваю пастанову за 2 е ліпеня 1929 году аб дачы акруговым выканаўчым камітэтам права дазваляць арганізацыю рэчавых лётарэй у межах акругі і даў паказаньне ўсім АВК аб тым, што згодна існуючага заканадаўства ўтварэньне ўсясякага роду лётарэй даецца выключна Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР. **А. П.**

# Праграма нарад-курсаў

## для членаў сельскіх і местачковых саветаў.

**I. Орган улады БССР** (1 гадзіна).

1. Сельскія, местачковыя і гарадзкія саветы, як першастковыя органы ўлады.
2. Раёнавыя зьезды саветаў і раёнавыя выканаўчыя камітэты.
3. Акруговыя зьезды саветаў і акруговыя выканаўчыя камітэты.
4. Усебеларускі Зьезд Саветаў, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, Народныя Камісарыяты і Савет Народных Камісараў.

**Матар'ял:** Канстытуцыя БССР.

**II. Саветы і іх пабудова** (3 гадзіны).

5. Як арганізоўваюцца саветы (пленумы, прэзыдыумы, камісіі).
6. Выбары старшыні, сакратара і членаў прэзыдыуму савету.
7. Камісіі, парадак іх арганізацыі і камплектаваньне іх.

**Матар'ялы:** „Палажэньне аб сельскіх саветах", „Палажэньне аб местачковых саветах" (Збор. Зак. БССР за 1925 г. аддзел I № 31); „Палажэньне аб камісіях пры саветах (Бюл. СНК за 1925 г. № 6, стар. 4).

**III. Правы і абавязкі саветаў** (4 гадзіны).

8. Правы пленуму і прэзыдыуму.
9. Дзейнасьць саветаў у галінах: а) кіраваньня і аховы рэвалюцыйнага парадку; б) сельскай гаспадаркі і землеўпарадкаваньня; в) гандлю; г) дабрабыту; д) фінансава-падатковай; е) наймовае працы; ж) ваеннай; з) культурна-асьветнай; і) аховы здароўя; к) сацыяльнае забясьпекі.
10. Правы членаў і старшынь саветаў.
11. Работа членаў саветаў у сваіх выбарчых вучастках.
12. Абавязкі камісій саветаў.

**Матар'ялы:** Тыя-ж што і да разьдзелу II.

**IV. Арганізацыйна масавая работа.** (4 гадзіны).

13. Палажэньні прэзыдыумаў і пленумаў, нарады.
14. Абслугоўваньне наведвальнікаў.
15. Залучэньне ў склад камісій рабочых, батрацтва і сялянства.
16. Практычная нагрузка жанчын—членаў савету (заданьні, прымацаваньне к установам і прадпрыёмствам).
17. Сходы беднаты і насельніцтва, парадак іх скліканьня і кіраўніцтва іх работай.
18. Справаздачнасьць савету і асобных дэпутатаў перад выбаршчыкамі.

**Матар'ялы:** Брашура „Масавая работа саветаў Беларускае ССР", выданьне ЦВК БССР, 1928 г.; дадатак да газэты „Савецкая Берарусь" „Саветы Беларусі" (усе нумары з 1-га за 1928 г.).

**Увага:** Праграма гэтых нарад-курсаў разьлічана на 12 гадзін працы, гэта значыць па 2—3 дні. Правядзеньне нарад курсаў трэба прыстасаваць да нерабочых (сьвяточных) дзен, каб не адрываць членаў саветаў сялян ад гаспадарчае работы.

**Аргаддзел ЦВК БРСР.**

# Пастанова прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР

## аб перападрыхтоўцы выбарчых работнікаў сельскіх і местачковых саветаў.

У выкананьне пастановы III й Сэсіі ЦВК БССР VIII скліканьня аб павышэньні кваліфікацыі работнікаў сельскіх і местачковых саветаў, правесьці наступныя мерапрыёмствы:

1. Арганізаваць па ўсіх саветах трохдзённыя нарады-курсы для дакладнага азнаямленьня ўсіх членаў ўноў пераабраных саветаў з пытаньнямі савецкага будаўніцтва, а таксама з правамі і абавязкамі саветаў і кожнага члена савету ў паасобку.
2. Па раёнах правесьці кароткатэрміновыя (ня менш 3-х дзён) нарады-курсы старшынь і сакратароў саветаў для прапрацоўкі на гэтых нарадах-курсах пытаньняў савецкага будаўніцтва, з пункту погляду масавай практычнай пастаноўкі работы ў савеце.
3. Прапанаваць акруговым і раёнавым выканаўчым камітэтам кароткатэрміновыя нарады-курсы па саветах і раёнах правесьці не пазьней красавіка месяца, забясьпечыўшы патрэбнае практычнае кіраўніцтва і абслугоўваньне іх адпаведным падборам работнікаў з акругі і раёнаў.
4. Лічыць мэтазгодным правядзеньне акруговых курсаў старшынь і сакратароў сель саветаў.

Даручыць арганізацыйнаму аддзелу прэзыдыуму ЦВК БССР распрацаваць, разам з зацікаўленымі наркаматамі, праэкт праграм акруговых курсаў і дагаварыцца з акрвыканкомамі аб тэрміне скліканьня гэтых курсаў, праграме і сродках.

Старшыня ЦВК БССР Чарвякоў.

Сакратар ЦВК БССР А. Хацкевіч.

4-IV—1929 г.
г. Менск.

Друкарня БДВ. Галоўлітбел № 302.